*Скарбы беларускай*
*літаратуры і фальклору*

# Рыгор Барадулін

# *САМА ПАЙДУ ДАРОГАЮ, ГОЛАС ПАШЛЮ ДУБРОВАЮ*

*Песні матчыны з Вушаччыны*

Мінск
2005

**УДК 882.6-1**
**ББК 84(4Беи) 6**
**Б65**

Барадулін Р.
**Песьні Матчыны з Вушаччыны**/Мастак Г. Грак.— Мн.: ГА БТ «Кніга», 2004,— 352 с. (з іл.).

ISBN 985-6605-19-9

Зборнік «Песьні Матчыны з Вушаччыны» — нястомны праваднік па фальклору роднай для народнага паэта Беларусі Вушаччыне. Абрадавыя песні, напеўкі, смяшынкі-казытушкі: шчымлівыя й гуллівыя, дасціпныя й каларытныя, сціплыя й скаромныя. Сабраныя за бяседным сталом — памяці і ўдзякі маме паэта й крэўнікам, якія праз вякі пранеслі крывіцкае слова, неўміручае сваёй паганскай шчырасцю.

УДК 882.6-1
ББК 84(4Беи) 6

ISBN 985-6605-19-9

* * *

Прыйшоў кум да кумы:
— А дай, кума, чапялы.
Кума нагу падняла:
— А во табе чапяла!

* * *

Ішоў кум гародам,
Кума вуліцай.
Трос кум пятухом,
Кума курыцай.

* * *

У полі дубок ілаваценькі,
А наш Іванька кілаваценькі.
У поле гоніць і кіла звоніць,
На кароў крычыць і кіла вурчыць.

* * *

Нанясі, Вожа, абалынку,
Дай, Божа, нам адпачынку.
Дай, Божа, нам кугакала,
Каб часценька плакала.
А мы б селі, скалыхнулі,
Сярэдзінкі б адпачнулі.

## Песня матчына зорамі значана

Песня нарадзілася ў слове, бо слова спявае, славячы Творцу ўсяго існага.

Нарадзілася, каб, дачакаўшыся чалавека, не расставацца з ім ад вяселля да хаўтураў.

Песня чуе няўлоўныя для слыху зямнога гукі сусветнай гармоніі, якая трымае зоры, трываліць вечнасць жыцця.

Песню й агонь перахоўвае людзтва з пакалення ў пакаленне, са стагоддзя ў стагоддзе.

Не хлебам адзіным жыве чалавек, ён жыве яшчэ й песняй.

Дзякуй Госпаду Звышняму, што паслаў мне маму — ахавальніцу нашага крынічнага й баравога, нашага азёрнага й вясёлкавага, нашага аржанога крывіцкага слова, нашай грамнічнай і зязюльчынай песні.

Мама жыла песняй, а песня жыла ў мамінай душы. Яны адна адну разумелі, адна адну ашчаджалі. Разам журыліся, разам радаваліся.

Умелі слухаць адна адну.

Песняй мама дзякавала Звышняму, песняй спавядалася, песняй дзялілася рэдкім шчасцем і частай бядою з Госпадам. Бо слова маміна спявала.

Крывіцкаму слову й матчынай песні я абавязаны ўсім.

*Матчына песня,*
*Ты ў полі гарбела,*
*На маразах на чужыне гібела*
*У баразёнцы на міг спачывала.*
*Болю не трэба было дабаўляць.*
*Рук ты не чула,*
*Але спачувала,*
*Што ў перапёлкі ножкі баляць.*

**Рыгор Барадулін**

*А, вясна красна,*
*Што ты прянясла?..*

## ВЯСНЯНКІ, ВЯСНА

* * *

А, вясна красна,
Што ты прянясла?
Божа мой!
А я прянясла
Рэчцы скрып вясла,
Канюшочкам па абротачцы,
Пастушочкам па дубчыку.

* * *

## У ЧЫСТЫ ПОЛІ

Пасціла дзеўка коні.
Яна пасціла ды заснула
І коні не пачула.
Коні і ўцяклі звідна,
І пайшла яна адна.
Ды дарогаю шырокаю.
Ды спатыкаецца са слязамі
Са трыма малайцамі.
— Вы, малойцы, вы кудравыя,
Ці не бачылі маіх коні?
— Хоць і бачылі, ды не скажам,
А зададзім табе задачу.
Калі адгадаеш, коні ўзнаеш.
А што расцець вышэй лесу,
Што гарыць без полымя,
Што бяжыць без повада,
Што плачаць без голаса,
Што расцець без кораня,
А што чорна нечарнёна,

А што бела небялёна?
— А хмель расцецъ вышэй лесу,
Сонца гарыць без полымя,
Вада бяжыць без повада,
Камень расцецъ без кораня,
Вугаль чорны нечарнёны,
Лебедзь белы небялёны.
Дзеўку вязуць, скрыпкі йграюць,
Удоўку вязуць, дзеткі плачуць.
Ды зялён явор-гавор.

* * *

А на моры а дзяўчына бель
бяліла,
А там выйшлі два малойцы
са даліны.
А ўзялі яны дзяўчыну за
падручкі,
А павялі а дзяўчыну ды ў
карчомку.
А ўпаілі а дзяўчыну, а ўпаілі,
У чаўночку яе спаці палажылі.
І ўзялі а два малойцы па
вяслочку
А спіхнулі дзевачоньку з
беражочку.
Прачхнулася а дзяўчына
сярод мора.
Вот узнала дзевачонька сваё
гора.
Не татулька яе замуж
аддаваіць,
Не мамулька а ей шкапік
накладаіць,
Не сястрыца баярычкай — ясна
зорка,
Расплятаіць русу косу буен
вецер.

* * *

Як пайду я каля луга,
Шукаючы свайго друга.
Ўсе лужочкі абхадзіла,
А мілога не відзіла.
Узыйду я на горачку,
Пагляджу я ў даліначку.
Аж мой мілы ў даліне спіць,
У правай руцы каня дзяржыць.
Пастаяла, падумала,
Як мілога разбудзіць.
— Устань, мілы, татар едзіць,
Татар едзіць — вайна будзіць,
Татар едзіць — вайна будзіць,
Цябе заб'юць — мне жаль будзіць.
— Мусіць, ты мяне разлюбіш,
Што раненька гэтак будзіш.
— Каб цябе я не любіла,
Я б раненька не будзіла.

* * *

Ох ты, ціхенькі Дунай,
Паціхусеньку гуляй.
Там удоўка хадзіла,
Пару сыноў радзіла,
Пару сыноў радзіла,
У карабель усадзіла.
У ціхі Дунай пусціла.
Ох ты, ціхенькі Дунай,
Паціхусеньку гуляй.
Ах ты, ціхенькі Дунай,
Калышы маіх дзяцей.
Ах ты, жоўты пясочак,
Накармі маіх дзяцей.
Ах ты, шэрая зязюля,
Забаўляй маіх дзяцей.
Ах ты, ніцая лаза,
Вочы дзецям не калі.
Ах ты, ціхенькі Дунай,
Паціхусеньку гуляй.
Цераз колькі год удоўка
Пайшла ў Дунай ваду браць.
Удовачка ваду браць,
Карабельчык падплываць.
Як у тым караблі
Два малойчыкі былі.
Стала ўдовачка, стаіць,
На малойчыкаў глядзіць.
— Ох, за аднаго сама йду,
За другога дачку аддам.
— Ох, дзе ж гэта чутана,
Каб брат з сястрой жэнены?
Каб родную маці
Сабе ў жонкі браці?
Ідзі, сястра, ў зялён луг,
Будзіць табе мілы друг.
Ідзі, мамка, ў цёмны лес,
Няхай цябе хоць воўк з'есь!
Дунай, Дунай, Дунаёчак.

* * *

А ў ляску, ў ляску на жоўтым
пяску
А там сталяры цэркву стаўлялі.
Цэркву стаўлялі з трыма вакнамі.
Праз адно вакно соўнейка
ўзыйшло,
Ў другое вакно месяц засвяціў,
Ў трыццяе вакно сакол уляцеў.
Сакол уляцеў, сам Бог паглядзеў.
Сам Бог паглядзеў, слязінку
ўраніў.
А з той слязінкі як пайшлі рэкі,
Рэкі быстрыя, беражыстыя.
А там дзяўчына платкі мыла.
Платкі мыла, персцень ураніла.
А рыбаловы рыбу лавілі.
— Рыбалоўчыкі, мае малойчыкі,
Вы закідайце шаўковы сеці,
А вы паймайце залаты персцень.
Дарам не хачу, я вам заплачу.
Аднаму я дам сятковы паяс,
А другому дам шаўкову хусту,
А трэццяму дам залаты персцень,
А к чацвёртаму я сама пайду.

* * *

У цёмны лесік я ў грыбы пайшла.
З грыбоў ішла і я ў пір зайшла.
У пірушачцы загулялася,
Дамоў ісці пабаялася.
Пятух пяець — я дамоў не йду,
Другі пяець — я не думаю.
Зара ўзыйшла — я дамоў пайшла.
Вароцечкі распіраюцца,
Мой міленькі прачыхаецца,
Мой міленькі прачыхаецца,
У мяне млодай пытаецца:
— Мая міла, дзе ўсю ноч была?
— Мой міленькі, за табой спала.
Ці ж ты, мілы мой, адурачыўся,
У сю ноч ка мне не адварачаваўся.
Я малодачка, я салодачка,
А ты ляжыш, як калодачка.

* * *

А ў чыстым полі,
Ай, пасець Раман коні.
Там дзяўчына жыта жала
І з Раманам размаўляла.
— Кідай, дзеўка, жыта жаці,
Хадзі ка мне коні пасціць.
— А, Раман, а, Раманька,
Мая маці ліхая.
— Я, дзяўчына, наўчу цябе,
А як маці адказаці:
Шэры гусі ляцелі
І вадзіцу намуцілі.
Я малада пасядзела,
Пакуль вада пасвятлела,
Я малада пастаяла,
Пакуль вада светла стала.

* * *

Дзяўчыначка, люблю цябе,
Не так цябе, як вочачкі,
Не спаў з табой ні ночачкі.
Не спаў з табой,
Спаць не буду,
Можа, скарэй прызабуду.

*Вялічка прыйшло,*
*Яечка знясло...*

## ВЯЛІКАДНЕ

* * *

Вялічка ідзець, нечага надзець.
Хрыстос васкрос, сын Божы!
Шапка-лапырка, пасярод дзірка.
Хрыстос васкрос, сын Божы!
Ў насаўку крушна, ў сярмяжцы
душна.
Хрыстос васкрос, сын Божы!
Усе прыборы — лапці й аборы.
Хрыстос васкрос, сын Божы!
Вялічка прыйшло, яечка знясло.
Хрыстос васкрос, сын Божы!

* * *

А ў полі дубок тонак і вісок.
Хрыстос васкрос, сын Божы!
А на тым дубку сядзіць галубок.
Хрыстос васкрос, сын Божы!
А там жа ехаў слічны панічок.
Хрыстос васкрос, сын Божы!
Вамаіць ражок, сыпліць
парашок.
Хрыстос васкрос, сын Божы!
Ай, мецiць наўзглядзь галубка
страляць.
Хрыстос васкрос, сын Божы!
— А не бі мяне, не страляй мяне.
Хрыстос васкрос, сын Божы!
Табе малайцу я прыгаджуся.
Хрыстос васкрос, сын Божы!
Як паедзеш ты ды жаніціся.
Хрыстос васкрос, сын Божы!
Твая залётка дужа далека.

Хрыстос васкрос, сын Божы!
За сінім морам, за быстрай ракой.
Хрыстос васкрос, сын Божы!
Цябе малайца я перавязу.
Хрыстос васкрос, сын Божы!
Цябе весяло на права крыло.
Хрыстос васкрос, сын Божы!
Тваю дзяўчыну на лева крыло.
Хрыстос васкрос, сын Божы!
Тваю дружыну на серадзіну.
Хрыстос васкрос, сын Божы!
Тваю свацціцу на галовачку.
Хрыстос васкрос, сын Божы!
Тваю музыку хоць на языку.
Хрыстос васкрос, сын Божы!
А надкоснічак* на шэры хвасток,
Хрыстос васкрос, сын Божы!

* * *

Валачобнічкі валачыліся.
Хрыстос васкрос, сын Божы!
Валачыліся, замачыліся.
Хрыстос васкрос, сын Божы!
Масці кладку, Хрыстос,
Сын Божы ўваскрос.
Заві ў хатку, Хрыстос,
Сын Божы ўваскрос!
Масці кладачку,
Заві ў хатачку.
Хрыстос васкрос, сын Божы!

* * *

Дзень добры таму, хто ў гэтым даму!
Хрыстос васкрос, сын Божы!
Гаспадынечка-журавіначка.
Хрыстос васкрос, сын Божы!
Гаспадарочак — дому паночак.

Хрыстос васкрос, сын Божы!
Устань раненька, мыйся беленька.
Хрыстос васкрос, сын Божы!
Мыйся беленька, ўтрыся суханька.
Хрыстос васкрос, сын Божы!
Запалі ліхтарок, ідзі ў хлявок.
Хрыстос васкрос, сын Божы!
У тваім хляве праявы сталі.
Хрыстос васкрос, сын Божы!
Праявы сталі, праявіліся.
Хрыстос васкрос, сын Божы!
Усе каровачкі пацяліліся.
Хрыстос васкрос, сын Божы!
Ў кожным куточку па бычочку.
Хрыстос васкрос, сын Божы!
А ў клятушачцы па цялушачцы.
Хрыстос васкрос, сын Божы!
А мы госцікі нехаджалыя.
Хрыстос васкрос, сын Божы!
Нехаджалыя, небывалыя.
Хрыстос васкрос, сын Божы!
Не часта ходзім, не многа просім.
Хрыстос васкрос, сын Божы!
Кварту гарэлкі, сыр на талерцы.
Хрыстос васкрос, сын Божы!

* * *

А ясён-красён мак у гародзе.
Хрыстос васкрос, сын Божы!
А ясней-красней дзяўчына ў таткі.
Хрыстос васкрос, сын Божы!
Па двару ідзець, як пава плывець.
Хрыстос васкрос, сын Божы!
На ганак зайшла, ганак зламіла.
Хрыстос васкрос, сын Божы!
У сені зайшла, сені асвяціла.
Хрыстос васкрос, сын Божы!
У хату зайшла, баяры сталі.
Хрыстос васкрос, сын Божы!

Баяры сталі, шапачкі знялі.
Хрыстос васкрос, сын Божы!
— А проша, проша і з намі сесці.
Хрыстос васкрос, сын Божы!
І з намі сесці, золата ўмесці.
Хрыстос васкрос, сын Божы!
А мне маладой сёрабра цяжка.
Хрыстос васкрос, сын Божы!
Серабра цяжка, золата важка.
Хрыстос васкрос, сын Божы!
А яшчэ важчэй міленькі дружок.
Хрыстос васкрос, сын Божы!
А яшчэ жалчэй родненькі куток!
Хрыстос васкрос, сын Божы!

* * *

Зялёным садам лётала пава.
Зялёны сад вішнёвы.
Лётала пава распавістая,
Зялёны сад вішнёвы.
Раняла пер'е распавістая,
Зялёны сад вішнёвы.
Раняла пер'е златавістае.
Зялёны сад вішнёвы.
А там гуляла млода дзяўчына.
Зялёны сад вішнёвы.
Яна гуляла, пер'е збірала.
Зялёны сад вішнёвы.
Большае брала, ў рукавок клала,
Зялёны сад вішнёвы.
Меншае брала, ў прыпалок клала.
Зялёны сад вішнёвы.
З рукаўка брала, вяночкі віла,
Зялёны сад вішнёвы.
А з прыпалка брала, падвівала.
Зялёны сад вішнёвы.
Савіўшы венчыкі, пазлаціла,
Зялёны сад вішнёвы.
А пазлаціўцы, на вулку выйшла.

Зялёны сад вішнёвы.
Выдаляецца, пахваляецца:
Зялёны сад вішнёвы.
— Пярловы вянец ніхто не сарвець,
Зялёны сад вішнёвы.
Ні буйны вятры, ні дробны дажджы.
Зялёны сад вішнёвы.
Адкуль узняліся буйныя вятры,
Зялёны сад вішнёвы.
Венчык схвацілі і пакацілі,
Зялёны сад вішнёвы.
Лугом, берагом, быстрай ракою
Зялёны сад вішнёвы.
На сіне мора.
Зялёны сад вішнёвы.
Там рыбаловы рыбу лавілі.
Зялёны сад вішнёвы.
— Рыбалоўчыкі, мае малойчыкі
Зялёны сад вішнёвы.
А закідайце шаўковы сеці,
Зялёны сад вішнёвы.
А вы паймайце пярловы венчык,
Зялёны сад вішнёвы.
Дарам не хачу, я вам заплачу.
Зялёны сад вішнёвы.
Аднаму я дам залаты персцень,
Зялёны сад вішнёвы.
Другому я дам шаўкову хусту,
Зялёны сад вішнёвы.
Трэццяму я дам сятковы паяс,
Зялёны сад вішнёвы.
А к чацвёртаму я сама пайду.
Зялёны сад вішнёвы.

* * *

Пан-гаспадарок,
У святы вечарок
Пастаі ў двары,
Шчодра адары.

З кубла, з-пад страхі
Паўні нам мяхі.
Вялічка даўно
Грукнула ў вакно.
Не дасі яец, —
Палупіш авец,
Не дасі сыра, —
Паложаш сына.
Мы не жабракі,
Ды з тваёй рукі
Рады многа ўзяць,
Многа пажадаць:
У дзяжу спарыну,
Сына на вясну,
Увосень зяця,
У восець багацця.

*Ішла Купалка сялом, сялом,*
*Казала дзеўкам: чалом, чалом...*

## КУПАЛЛЕ

Ішла Купалка сялом, сялом,
Казала дзеўкам: чалом, чалом.
Дзеўкі Купалкі не пазналі,
На вулку гуляці не пазвалі.
Стала Купалка бедаваць:
— А дзе ж мне ночку начаваць?
— Ідзі, Купалка, ў канец сяла,
Начуй, Купалка, ў Васіля.
У яго хатка навенька,
У яго сямейка вяселенька,
У яго піва наганёна,
У яго дачушка заручона,
За купчыка аддадзёна. '
Паедзіць купчык купчаваці,
А маладзенька шынкаваці.

* * *

А на Йвана Купалу
Дзеўкі краскі збіралі.
Красак паназбіралі
І да Ивана паслалі.
А Йван краскі не ўвазнаў,
Да Купалы адаслаў.
А Купала ўвазнала,
А Івану сказала:
— Гэта тыя зёлачкі,
Што збіралі зорачкі.
Гэта тая травіца,
Што Брацітка-й-Сястрыца,
А Брацітка — сіні цвет,
А Сястрыца — жоўты цвет.

* * *

Іван, Іван ды Мар'я
Каціліся з у звал ля.
Іван Мар'ю пераймаў,
Ручкі-ножкі цалаваў.
Каціліся з гарушкі
У мяккія падушкі,
Каціліся з даліны
Ў пуховыя пярыны.

* * *

Ай, Купала, Купала,
Дзевак многа прапала.
А ў Купалушкі тры дачушкі.
Адна дачушка тоўста, гарбата,
Друга дачушка тонка, вісока,
Трэцця дачушка бела, румяна.
Тонка, вісока зайшла далёка,
Бела, румяна зайшла за пана.
Тоўста гарбата зайшла багата.

* * *

А выйду, выйду на вуліцу,
А ўдару, ўдаруў ладоначкі
Аб залатыя пярдёначкі.
Як зачуў жа мой свёкарка,
Пачаў прасіць мяне скоранька:
— Не бі, нявестка, ладоначкі,
Не псуй залатыя пярсцёначкі.

— А што ж за дзела, мой свёкарка,
Не заслужыла я вокрыка,
Не ты ладоначкі гадаваў мае,
Не сын пярсцёначкі спраўляў
твой мне.
Пагадаваў ладонкі татулечка,

Спраўляў пярсцёнкі брацюлечка,
Спраўляў брацюлька пярсценкі ў горадзе,
Казаў гуляці мне моладзе.

* * *

Божа мой,
Чаму селязень смуцен, невясёл?
— А як жа мне вясёламу быць.
Учора з вячора на моры быў,
Вутачку сачыў,
Сягоння рана палёдела.
Каб далёкая, жалі б не было,
Яна ж ад мяне на трэццім кусце
Купаецца, ныраецца,
Мне, селязеньку, наругаецца.
Божа мой,
Чаго маладзец смуцен, невясёл?
— А як жа мне быць вясёламу.
Учора з вячора ў дзяўчыны быў,
Дзяўчыну запіў,
Сягоння рана за другога йдзець.
Каб далёкая, жалі б не было.
Яна ж ад мяне на трэццім дварэ
Умываецца, выціраецца,
Мне маладому наругаецца.

* * *

Не шчабячыце, дробныя пташкі,
У даліне,
Не будзіце майго мілага
Ў пярыне.
Я маладзенька таму радзенька,
Што ён спіць,
Што ён маёй галовачкі
Не журыць.
Я за работку, ён за варкотку,

Я за ложачкі, ён за вожачкі —
Мяне біць.

* * *

Пушчу каня ў гарод,
Сама сяду ля варот,
А я косю прывяжу,
А я косю прыкажу:
— Не еш, кося, травіцы,
А еш, кося, красачкі,
Баравыя васількі.
А еш, кося, сена брок,
Вязі мяне ў чужы бок.

* * *

Ты, баравая зязюлечка,
Не кукуй рана на дуброве[1],
Не будзі мяне маладое.
Пабудзіць мяне свякроў мая:
— Ўставай, нявеста, дзідя мая,
На дуброве — на выгане.
А ўжо каровы на дуброве,
Дробныя статкі на даліне,
А ты маладая йшчэ ў пярыне.

* * *

Перад Пятром пятым днём
Разгуляўся Юр'еў конь.
Разгуляўся Юр'еў конь,
Разбіў камень капытом.
А ў камяня ядра няма,
А ў хлопцаў праўды няма.
Перад Пятром пятым днём

---

[1] На дуброве — *на выгане*.

Разгуляўся Юр'еў конь.
Разгуляўся Юр'еў конь,
Разбіў арэх капытом.
А ў арэху ядро ёсь,
А ў дзяўчатак праўда ёсь.

* * *

Ля новага калодзеся
Два двараніны коні паілі,
Яны паілі ды гаварылі:
— Не бяры, брацец, багатую,
А бяры, брацец, худобачку.
У багатае коні, каровы,
А ў худобачку чорныя бровы.
Коні, каровы паздыхаюць,
Чорныя бровы век не зліняюць.

* * *

На вуліцы ля варот
Сядзіць жонак карагод
Кулаком зямлю прабілі,
Аб нявестак судзілі.
Адна кажаць: ласуха,
А другая: красуха,
А трэцця: лянiва,
Чацвёртая: драмліва.

* * *

— Чаму, Купалка, нявесела,
Краскамі вочкі завесіла?
— А як жа мне вясёленькай быць,
У мяне мамка няродная.
На вулку гуляці не пушчаіць,
У цёмну камору запіраіць.
Я маладзенька прамышлёна,

Я замочак паламала,
Выйшла на вулку, пагуляла.

* * *

Маладзіца маладая
Шэрых гусей прыганяла,
Прыганяла, прыгукала:
— Прывыкайце, шэры гусі,
І к зялёненькай травіцы,
І к сцюдзёненькай вадзіцы.
Я молада прывыкала
І к свёкарку і к свякроўцы,
І к дзеверу і к залоўцы.
Свёкар мовіць пасцель слаці,
А свякроўка разуваці,
Дзевер мовіць вады ісці,
Свякровачка кароў даіці.
Я молада паслухмяна
Усё робіла старанна.

* * *

На гарэ карыта
Поўна вады наліта.
Там дзяўчаты ходзілі,
Рукі-ногі памылі.
А хлопчыкі хадзілі,
Тую ваду выпілі.

## ЖНІВА, ЖЫТА

* * *

Ішоў Бог дарогаю,
Дарогаю шырокаю
І з вялікімі снапамі,
І з даўгімі каласамі.
А хто Бога пярэйміць,
У сваё гумно заверніць?
А пераняў Бога Іванька:
— А ка мне, Божа, ка мне.
У мяне гумно вялікае,
Пярэплаты вісокія,
Пераклады[2] шырокія.
Ёсь дзе Богу пасядзеці,
На пераклады паглядзеці.

* * *

Нанясі, Божа, абалынку[3],
Дай, Божа, нам адпачынку.
Дай, Божа, нам кугакала[4],
Каб часценька плакала.
А мы б селі скалыхнулі,
Сярэдзінкі б адпачнулі.

* * *

Жыта маё ядраное,
Калоссіка залатое.
За тое сонцу хвала, хвала!
У нас сягоння вайна была.

---

[2] Пераклады — жэрдзі, якія не даюць снапу валіцца.
[3] Абалынка — аблачынка, воблачка.
[4] Кугакала — немаўля.

Усё поле зваявалі,
Усё жыта пажалі.
Змялі поле мяцёлкаю,
Дамоў прыйшлі з вясёлкаю.

* * *

Рада, рада шэра перапёлка,
Што лета даждала, рада, рада.
Надаелі вялікія снягі,
Лютыя марозы надаелі.
Рада, рада наша гаспадынька,
Што жыта дажала, рада, рада.
Надаела жаркота-пякота,
Цяжкая работа надаела.

* * *

На ўдоўчыным полі
Сабраліся работнічкі.
А мядзведзь карчом арэць,
А воўчанька барануіць,
А заінька дроўцы сячэць,
А лісічка бліны пячэць.
А за лес сонца, за лес.
А мядзведзь на ель палез,
А воўчанька ў лес пабег,
А заінька пад ёлачку,
А ўдовачка ў каморачку.

* * *

Закурыўся а дробненькі дождждык,
Ды па чыстым полю закурыўся.
Зажурыўся мой бедны татулька
Па майму бяздоллю, зажурыўся.

Не курыся, а дробненькі дожджык,

Ды па чыстым полю не курыся.
Не журыся, мой бедны татулька,
Па майму бяздоллю, не журыся.

* * *

На моры жабка красенцы ткала.
Рана-рана красенцы ткала.
Прыйшоў арачак
Да жабкі ў сваты.
Рана-рана, да жабкі ў сваты.
Даець ей ганьбу
Вірлун пуляты:
— А ў цябе, ў жабкі
Кароткі лапкі.
Рана-рана, кароткі лапкі.
— А ў цябе, рачак, у срачцы вочкі.
Рана-рана, у срачцы вочкі.
— Кароткі лапкі
Далёка скачуць.
Рана-рана, далёка скачуць.
— У срачцы вочкі
Далёка бачаць.
Рана-рана, далёка бачаць.

* * *

Перапёлка, ты не ві гняздзечка
Блізка ля дарожкі, перапёлка.
Пастушочкі каровак пагонюць,
Яечкі заберуць, пастушочкі.
Канюшочкі на начлег паедуць,
Гняздзечка распоруць, канюшочкі,
Перапёлка, ты не ві гняздзечка
Блізка ля дарожкі, перапёлка.

* * *

Божа мой!
А ель мая зялёная,
Свякроў мая шалёная,
Загадала мне работачку:
На моры бялілць,
На лесе сушыць,
На небе качаць,
У арэшак складаць.
Я ж не вутачка
Па мору плаваць,
Я ж не птушачка
Па лесу лётаць,
Я ж не соўнейка
Па небу хадзіць,
Я ж не вавёрка
У арэшак складаць.

* * *

А я ў полі жыта жала,
Дамоў прыйшла, бяда стала.
Звалілася свякроў з тыну
У зялёную крапіву,
Не жаль жа мне свякровачкі,
А жаль жа мне крапівачкі.
Кралівачку на нівачку,
Свякровачку ў магілачку.
Кранівачку жаці буду,
Свякровачку клясці буду.

* * *

Сама пайду дарогаю,
Голас пашлю дуброваю,
Няхай голас галасуіць,
Няхай мяне мамка чуіць,
Вячэрачку мне гатуіць,

Пасцелечку мне бушлуіць.
Вячэрачку смачненькую,
Пасцелечку мякчэнькую.
Вячэрачку медавую,
Пасцелечку пухавую.

* * *

А каліна-маліна,
Не стой над ракою,
Не раўнуйся са мною.
Было тады раўнавацца,
Як была я ў татулькі
Бялей твайго цвету,
А чырваней ягодачак.
А як у свёкаркі стала,
На рутаньку звяла,
Стала тонкая, як былінка,
Стала белая, як ліпінка.
А былінка стаптаная,
А рутанька сарваная,
А ліпінка здзяроная,
Я ў свёкаркі зажуроная.

* * *

Іду, бягу дарогаю,
Крышу, ламлю ляшчыннічак,
Трушчу, лушчу арэшачкі.
Ядзёрачкі ў рукавочак,
Шалупачкі ў прыпалочак.
Ядзёрачкі мамулечцы,
Шалупачкі свякровачцы.
І з свякроўкай пасваруся,
Мамулечцы пажалюся.
А шумён наш бор, шумён
Над усімі барамі.
А хвалён наш пан, хвалён
Над усімі панамі.

Яго пані майнейшая,
Яна за ўсіх ладнейшая.
Выкаціла бочку віна,
Другую — гарэлачкі.
Бочка віна для дзяўчат,
Гарэлачка для хлопцаў.
А хлопчыкі іграць будуць,
А дзяўчаткі спяваць будуць.

* * *

Звінелі пчолкі, па бару лятаючы,
Салодкі мёд збіраючы.
Плакала ўдоўка, вячэрку гатуючы:
— Вячэр мая сахарная,
З кім мне цябе спажываці?
Дзеткі мае драбненькія,
З кім мне вас гадаваці?
А і з Богам, удовачка,
Бедная галовачка.

* * *

А ў цёмным лесе мядзведзь рыкаіць
Раю-раю.
Мядзведзь рыкаіць, дзевак пужаіць.
Раю-раю.
— Рыкай, рыкай, мы не баімся.
Раю-раю.
Толькі баімся асенняй ночкі.
Раю-раю.
Асення ночка разлуку даець,
Раю-раю.
А адлучаіць ад таткі, мамкі,
Раю-раю.
А прылучаіць к свёкру,
к свякроўцы.

* * *

Кругло, мало балоцечка,
Там хадзіла малодачка,
Сеяла расу-красу:
— Расці, мая раса-краса,
І тонкая й вісокая,
На лісціка шырокая.
Калі буду ў мамулькі,
Тады буду паліваці,
Калі буду ў свёкаркі,
Тады буду забываці.
З каранём цябе вырву,
За тын цябе кіну.
Няхай цябе коні стопчуць,
Няхай цябе свінні сточуць.

* * *

А лятала шэра перапёлка
А па чыстым полі, а лятала.
А шукала шэра перапёлка
Сваіх дробных дзетак, а шукала.
А не знайшла шэра перапёлка
Сваіх дробных дзетак, ой
не знайшла.
Толькі знайшла ды яна
гняздзечка,
Цёплае мясцечка толькі знайшла.

А хадзіла горкая сіротка
Ды па чыстым полі, ой хадзіла.
А шукала сваіх татку з мамкай,
ай шукала.
Ды не знайшла сваіх татку з
мамкай,
Ды не знайшла.
Толькі знайшла сцюдзёну
крынічку,
Халодну вадзічку толькі знайшла.

* * *

Пара, жонкі, дамоў ісці,
Пагубляла зара ключы.
А хто мае ключы знойдзіць,
За караля замуж пойдзіць.
Адна дзеўка ключы знайшла,
За караля замуж зайшла.

* * *

А я жала да вечара,
Забалела сярэдзіна.
Забалела сярэдзіна,
І душу я звярэдзіла.
А мой свёкарка згадлівы,
А мой свёкарка спагадлівы.
Ён лазеньку выпаліў,
З душы смутак выпыліў.
І наламаў бярэзнічку,
Папарыў мне сярэдзінку.
Ой, белая бярэзіна,
Баліць мая сярэдзіна.

*Талачу, талачу —*
*талакі не ўняць...*

## ТАЛАКА

* * *

Талачу, талачу — не талочыцца.
Не даюць гарэлкі, мне не хочацца.
Талака, талака — талакі не ўняць.
Не дадуць гарэлкі, не буду пяяць.
Казалі на мяне, што я п'яніца,
Я ў свайго свёкаркі ўся парадніца.
Казалі на мяне, пасялушачка,
Я ў свайго свёкаркі весялушачка.
Я пайду малада быстрай ракою,
Абламлю каліну правай рукою.
А тая каліна ды ў руцэ звяла,
Я свайго свёкарку ў госцейкі звала.
Я й піва варыла, мёд саладзіла,
Я свайму свёкарку ўсё не ўгадзіла.
І піва не п'яна, мёд не салодак.

* * *

Нядоля, нядоля, свёкарка, твая,
Не п'яна, не п'яна талака мая.
Нядоля, нядоля, няшчасце мае,
Не любіць свякроўка йменніка
майго.
Шлець мяне маладу ў Дунай па
ваду.
І пятух не прапеў, гусак не
крыкнуў.
Я іду па ваду, тоячы крыўду.
— Не стукні, не грукні, суды"
беручы,
Не ступі няроўна, ваду несучы.
А нясі вадзіцу паціхусеньку,

А стаўляй вадзіцу памалюсеньку.
Каб твая вадзіца не пліхнулася,
Каб твая свякроўка не абачхнулася.

Стукнула, грукнула, суды[5] беручы.
Як пачуў міленькі, коні пасучы.
— Пастаў, мілая, не ходзі вады,
На рацэ паставіў туман невады.
Я коні напасу й вады прынясу.

Заняўся, заткаўся а дзень малады,
Прынясла з Дунаю свякроўцы
вады:
— Во табе, мамулька, свежая вада,
Напіся, памыйся з поўнага вядра.
— Я цябе, нявестка, не вады слала,
Я цябе нявестка, з свету зжывала.
— Ты мяне, свякроўка, дзеўкаю
знала,
Нашто ж ты ,мамулька, за сына
брала?

* * *

Ішоў я, ішоў я
З паўначы з карчмы.
Знайшоў я, знайшоў я
Салаўя ў карчы.
— Салавей, салавей,
Ранняя пташка,
Ты запей, салавей,
Раннюю песню.
— Рад бы я пяяці,
Голасу няма.
Учора з вячора
Сам мамку схаваў,
Сягоння раненька
Голас мой прапаў.

---

[5] Суды — два вядры.

* * *

Ай, гуляй-гуляй, шчука-пладіца,
Калі цёпла вадзіца.
Пойдзеш на мора, на сіні азёры,
Гуляці не будзеш.
Ай, гуляй, гуляй, млода
Клаўдзічка
У роднай мамкі.
Пойдзеш к свёкарку,
Гуляці не будзеш.
Цябе маладу пашлюць па ваду,
Самі сядуць абедаці.
Прянясла вады — на сябе бяды.
Ёсць каму піці даці,
Даць і старому, даць і малому,
І міламу маладому.
Лыжачка лясніць, слёзачка
капніць,
Я й паабедала.

* * *

А ў майго татулькі двор над вадою,
А двор над вадою, сад над ракою.
— А пусці, татулька, мяне ў сад
пагуляць,
Не буду, не буду вішань шчыпаць.
Выкрышу, выкамлю вінаградачку,
Прынясу к татульку на парадачку:
— Парай, татулька, а як мне жыць,
Ці замуж ісці, а ці дзеўкай быць?
— Калі дзеўкай быді, накрасуешся,
Калі замуж ісці,нагаруешся,
Дробненькіх дзетачак нагадуешся.

* * *

Як пайду малада быстрай ракою,

Адламлю каліну правай рукою.
А тая каліна на руках звяла.
А я свайго татульку ў госці звала:
— А прыедзь, татулька,
Прыедзь родненькі.
Буду частаваць, буду я вельмаваць,
Буду я татульку ўсю праўду казаць.
А ўчора з вячора мяне свёкар біў,
А біўшы-журыўшы, сам у пір
пайшоў.
У піру ходзіць, пахваляецца:
— А добра, як добра чужых
дзетак біць.
Яна ж у мяне не прасілася,
Толькі слёзкамі вымывалася,
Бяленькім рукоўком выціралася.

* * *

У майго свёкаркі двор на памосце,
У яго за стал ом любыя госці.
У майго свёкаркі двор над ракою,
У майго свёкаркі сад над вадою.
Тут я п'ю, тут я п'ю, тут я гуляю,
Як тая рыбінка сярод Дунаю.
Прыплыла к беражку,
страпянулася,
Я ж сваім злоснічкам наругнулася.

* * *

Добра мне, добра мне
За маім дзедам,
Не маю клопату
За яго хлебам.
У карчомку ён ідзець,
Я за ім следам.
З карчомкі ён ідзць,
За ручку вядзець.

Прывёўшы дамоўкі,
Пасцельку сцеліць,
Паслаўшы пасцельку,
Спаткі ён кладзець:
— Спі, мая бабулька,
Да бе лага дня.
Ў мяне ж вас не дзесяць,
Ты ў мяне адна.

* * *

А дайце мне, дайце
Сем чарак гарэлкі.
Ай, адну мне дайце,
Каб я пасядзела,
А другую дайце,
Каб я пасмялела,
А трэцюю дайце,
Каб я пагуляла,
Чацвёртую дайце,
Каб я папяяла,
А пятую дайце,
Збрую сабірайце,
А шостую дайце,
Коні запрагайце,
А сёмую дайце,
Дамоў выпраўляйце!

*Звійся рой пад гарой,*
*Ляцець хочаць...*

## ВЯСЕЛЛЕ

* * *

Гойкнуў баравік на бару:
— Сабірайцеся, грыбочкі, на вайну.
Паедзем апеначак ваяваць,
Каторая лепшая, з сабой браць.

Гойкнуў маладзік за сталом:
— Сабірайцеся, сваточкі, ўсім
гуртом.
Паедзем паненачак выбіраць,
Каторая ў вяночку, з сабой браць.

* * *

Сядзіць зайка пад ёлачкай, вочкі
трэць.
Едзідь хлопец жаніціся, зайку
б'ець.
— А не бі мяне, не страляй мяне,
хлопча.
Ці я табе дарожачку перабег,
Ці я тваіх конікаў сапудзіў,
Ці я табе тваю дзяўчыну адгудзіў?
А перабег табе дарожку шэры воўк,
А сапудзілі тваіх конікаў галубцы,
А адгудзілі тваю дзяўчыну
малайцы.

* * *

Па полю дымы дымяць,

А па дварэ шатры стаяць.
Пад тымі шатрамі
Петрачок з сястрамі.
— Сястрыцы-парадніцы,
Парайце парадачку,
Ці Богу маліціся,
Ці ехаць жаніціся?
— Брацікa наш родненькі,
Памолімся Богу,
Паедзем у дарогу.

* * *

А не гніся, не ламіся, каліна,
Не вялікая пад Іванечкам
дружына.
Семсот казакоў апроч палякоў
Ля яго.
Семсот шынкарак апроч баярак
Ля яго.
Ён борам едзіць, барочкі шумяць
Ад яго.
Ён полем едзіць, поле ялеіць[6]
Ад яго.
Ён мостам едзіць, масточкі гручаць
Ад яго.
Ён сялом едзіць, людзі дзівяцца
Ўсе з яго:
А чыё ж гэта дзіцятка прыбрана,
У чужую староначку паслана?
Бог таму дасць, хто аддасць
Дачку за яго.

[6] Ялеіць — блішчыць.

* * *

А пад кім такім вараны конік
гарцуіць?
А пад Іванькам сваіх ножачак не
чуіць.
А на кім такім кашуля хараша?
А на Іванечку ўся золатам вышыта.
А хто яму гэту кашулю вышываў?
А хто яму золатам раскашаваў?
Матулька родная вышывала
А шчырым золатам раскашавала,
Пры цёмнай начы, пры яснай
свячы седзючы.
У каўнярочак яму зорачку ўшыла,
Каб яна яму ўсю дарожку свяціла.
А зорачка свяціла, свяціла ды
перастала,
А зорачка Іванечку адказала:
— Досіць я табе маладзенькаму
адсвяціла,
А як цябе родная мамка радзіла.
Яна хадзіла па новых сянёх, як
пава,
Яна радзіла цябе, малайца, як
пана.

* * *

А паедзем горы-даліны раўнаваць,
А пакінем сваю маладую гараваць.
Гаруй, гаруй, наша маладая,
не кайся,
А прыехаўшы дамовачкі,
не жалься.
Было табе ўсіх хлопчыкаў не
звадзіць,
Было табе гарэлачкі не піці,
Было табе цукерачак не есці.

* * *

Прыехалі запіўнічкі:
— Каго ж будзем запіваці?
Дзяўчыны дома няма.
Пайшла яна ў ягодачкі,
У чорныя смародачкі.
Смародачка ці не ягадка,
А Наташка ці не дзяўчынка?
Каса яе ці не русая
Шоўкам пераплецена,
А золатам пераведзена,
Па плечках распушчона?
А яна ўжо заручона.

* * *

— А ў дарожку, мой брацітка,
ў дарожку,
А набірай злота-серабра
ў паможку.
А будзіць табе тры прыгодачкі
ў дарожцы.
Перша прыгода — сівога каня
падкаваці,
А друга прыгода — дешчухну
прывітаці,
Тряцця прыгода — дзяўчыначку
выкупляці.
— А не тужы, мая сястрыца,
не бядуй.
Сівога каня падковамі падкую,
А цешчухну зялёным вінам напаю.
А дзяўчыначку злотам-серабрам
выкуплю.

* * *

— А чаго сядзіш,
А што думаеш, Іванька?
А ці ўсе твае
Вараны конікі асядланы?
А ці ўсе твае
Родныя брадіткі сабраны?
— Мае конікі,
Як гаголікі, на дварэ.
Мае брадіткі,
Як саколікі, ля мяне.
Мае конікі,
Як гаголікі, брок ядуць.
Мае брацiткі, як саколікі,
Мядок п'юць.

* * *

З-пад саду зялёнага
Сакалы выляталі,
Зязюлю з сабой бралі.
— І з намі, зязюля, і з намі,
І з намі сакаламі.
— Рада б я палецеці,
Жаль саду зялёнага,
Вішанек чырвоненькіх.

І з бору сваты з'язджалі,
Паненачку з сабой бралі:
— І з намі, паненачка, і з намі,
І з далёкімі сватамі.
— Рада б я паехаці,
Жаль мамкі пакінуці,
Жаль мамкі старэнькае,
Сястрыцы маладзенысае.

* * *

Сабраліся стральцы-лаўцы
на аблаву,
А забілі ласянёначка на бару.
А як пачула старая ласіца
ў лам'ю,
А як кінула крутыя рогі
аб зямлю:
— А няхай мае крутыя рогі
прападуць,
А нячым майго ласянёначка там
заб'юць.
А застучэлі каваны колы на дварэ.
А як пачула Ганніна мамка
ў адрыне,
А як кінула залаты ключы
аб скрыню:
— А няхай мае залаты ключы
прападуць,
Нячым маю дачушку павядуць.

* * *

Зелены дубочак зелянюсенькі
На мора пахіліўся.
Молад хлопчык маладзюсенькі
Ў дарожку нарадзіўся.
Трымае насовачку ў белых
ручаньках
Слёзанькі выціраіць.
Сваёй мамульцы, сваёй родненькай
Да ножак дападаіць:
— Мамулька мая, родная мая,
З кім мяне выпраўляеш?
— З Богам, дзіцятка, з Богам, родны,
Са ўсею дружынаю.
Табе дарожка багаслаўлёна,
Цэркаўка расчынёна,

Табе дарожку Бог багаславіў,
Табе цэркаўку Бог расчыніў.
Твая свацціка, твая сястрыца
Ля цябе, як жар, гарыць,
Твая дзяўчына маладзюсенькая
Уся, як мак, цвіціць.

* * *

Ганульчына матка
На парог ступаіць,
На кут паглядаіць,
Што ў яе на куце ззяіць,
А ці месяц, ці соўнейка?
А не месяц, не соўнейка,
Гэта ж мае дзіцятка.
Хай жа яно красуецца,
Да шлюбу рыхтуецца

* * *

Стукнула-грукнула на дварэ.
— Ці не па мяне, мамка,
Ці не па мяне?
— Па цябе, кудлачка, па цябе,
Па цябе, кудлачка, па цябе.
Паедзеш, кудла, без кубла
Затое, што кудзелькі не скубла.
Было табе позненька не ляжаць,
Было табе кубельчык заказаць.

* * *

Ехалі мы, ехалі,
Тры сялы мінаючы,
Чацвёртае пытаючы:
А дзе ж тое сяло,
Багатая хата?

Там вісокі ганак,
Там вітаюць прыданак.
Там наша сястра ўзята,
Ўся яе краса знята.
Мы ўвялі слядочак
А на сватні дварочак.
Дзе мы яе аслядуем,
А мы там заначуем,
Нап'ёмся гарэлачкі
За сваю паненачку.

* * *

Вясёлым долам каціліся колы.
Ехалі сваты ля стадолы.
Дарогу запылілі,
Стадолу запалілі.
Адна сваццїка хоць невялічка,
Дык яна разумная.
Падняла ножку
Сікнула трошку,
Стадолу абтушыла.
Пусціла сікі
Пад чаравікі,
Панчошкі абмачыла.
Прыданыя ў дом едуць,
А курачкі пад печ бягуць.
— Не бойцеся, курачкі,
Супакойцеся, сакатурачкі.
Не многа нас едзіць,
Не многа вас трэба —
Мы ведаем меру:
Сем курачак на вячэру,
А восьмая на сняданне,
Дзевятая на ад'язджанне.

* * *

Ля сваццінага двара
Вісокая гара —
Ні ўзыйсці, ні ўз'ехаці,
Ні сакалам узлецеці.
А што даць-перадаць,
Якіх сакалоў пасылаці?
А дзяўчыну к сабе ўзяці.

* * *

У хату сваты лезуць,
Аб вушак .ракі чэшуць,
За сталы сядаюць,
У печ паглядаюць,
Ці тлуста капуста,
Ці вялік кацёл кашы,
Ці пад'ядуць сваты нашы.
А панаехалі прыданыя цяцеры,
А захаделі нашай маладой вячэры.
— А, прыданачкі, сваёй пасудачкі
не маю,
А пакуль жа я сваю свякроўку
ўзнаю.
А тады я вам батату вячэру згадаю.
А ёсць у мяне качан капусты на
лясе,
А ёсць у мяне верабеечка на страсе.
Качан капусты — добрая патраўка,
Верабеечка — тлустая запраўка.

* * *

— А просім у вас пашаны-спавагі,
Каб не было нашай маладой
знявагі.
Каб не была ей паветачка за хатку,

Каб не была ей суеедачка за матку.
Каб не была яе лыжачка пад
сталом,
Каб не была яе пярыначка пад
палом[7].

— А маўчыце, нашы прыданачкі,
маўчыце,
А лепі вы сваю Тэклечку наўчыце.
Няхай яна паранюсеньку ўстаедь,
Няхай яна сені-хату падмяцець.
Няхай яна шумку[8] на вуліцу не
нясець,
А пад парожкам насыпіць,
А няхай яна ножкамі
прытопчыць,
А няхай яна і слёзкамі прымочыць.

* * *

Не прыехалі к вам пяяць,
А прыехалі піць-гуляць.
Каб ад вас не пачулі злосці,
Каб мы былі госці за госцяў.
Каб былі для конікаў стайнічкі,
Каб былі для вуздэчак палічкі,
Каб былі для сёдлаў кулічкі[9],
А для нас маладых і старых
святлічкі .
Каб былі столікі пазасціланы,
Каб былі кубачкі паналіваны.
Калі будуць нам даваць,
Дык мы і будзем піць-гуляць.
Што ж, пане браце, горка,
Ці ёсь пры боку бачорка?
А пры мне ёсь маленькі рабой[10],

---

[7] пол — палок, палаць.
[8] шума — смецце
[9] кулічкі — гвазды, каб вешаць сёдлы.
[10] рабой — усё з прыпасаў, з прычандаллл

Нап'ёмся гарэлачкі з табой.
Пан Езус пахвалёны!

* * *

Дадому, сваты, дадому,
Паелі коні салому.
А каля тыну крапіву,
Каля восецi мякіну.
Калі будзеце начаваць,
Будзіць дорага каштаваць.
За сена вязку — сярмяжку,
За аўсяны снапок — кажушок,
За маладушку — падушку.

* * *

А дзенькавала
Бела бярозка дуброўцы:
— Дзянькую табе,
Мая дуброўка, за тое,
А за тваё пастаяньніка ціхое,
Што за табой
Ціхусенька стаяла,
Што за табой
Буйных вецяроў не знала.
А дзенькавала
Наша Аксінька мамульцы:
— Дзянькую табе,
Мая мамулька, за тое,
За тваё гадаваньніка ціхое,
Што я за табой
Маладзенькая адгуляла,
Што я ў цябе
Цяжкай работкі
Не знала,
Ні дзяжу мясіць,
Ні ваду насіць,
Не знала.

Я ў свякровачкі ўсю работачку
Узнала,
І дзяжу мясіць, і ваду насіць,
узнала.

* * *

Як жа заранцы, як жа заранцы
З зорамі расстаціся,
З месяцам спаткаціся?
— Пайду я па загор'іку,
Хмаркаю апушчуся,
Дождж\u044bкам абліюся,
З зоркамі расстануся,
З месяцам спаткаюся.

Як жа Мар'ічцы маладзенькай
З дзеўкамі расстаціся,
І з мілым спаткаціся?
— Пайду я па застолліку,
Коскамі апушчуся,
Слёзкамі абліюся,
І з дзеўкамі расстануся,
І з мілым спаткаюся.

* * *

Каралёва дачка — панначка.
А каля двору пшаніца,
Пасярод двору крыніца.
А пад ганачкам васількі.
Прыехаў хлопец сам-дзесят,
Папускаў конікаў простых[11] у сад.
Гібкія лавачкі паламаў,
Шызых галубоў пастраляў,
Пшаніцу-ярыцу вытравіў,
Сінія васількі патаптаў.

[11] простыя коні — не путаныя.

Як загневалася дзяўчына
За тую пшаніцу-ярыцу,
За тую крыніцу-вадзіцу,
За тыя сінія васількі.
— А не гневайся, дзяўчына.
Пшаніца-ярыца адрасцець.
Крыніца-вадзіца не ўцячэць.
Сінія васількі цвіцець будуць.
Мы з табой, дзяўчына, жыць
будзем.

* * *

На моры пятух пяець,
У церам голас даець.
Іванька па двару ходзіць,
Сваю цешчухну просіць:
— Цешчухна, мая мамухна,
Не дзяржы нас доўга,
Адпраўляй нас скора.
Коні мае настаяліся,
І сваты мае нагуляліся,
Іскрыпачка сайгралася,
Свацціца спяялася.
Я молад знябыўся,
Дамоўкі спазніўся.
Дзяўчына сплакалася.
А мне маладому
Дарожка даўгая,
Дарожка даўгая,
Дзяўчына дарагая.

* * *

Белая бяроза нецярэблена,
Дробнае суччака не ўберана.
Ідзіце, малойцы, церабіці,
Дробнае суччака прыбярыце.

Молада дзяўчышачка непрыбраная,
Русая косачка несчасаная.
Ідзіце, дзяўчатачкі, прыбярыце,__
Русую косачку расчашыце.

* * *

— А зіма, зіма сцюдзёная,
Чаю рана нападаеш?
— А я не рана, а я не позна,
Вот мая пара прыйшла.
Лісточак падзець, травіцу кладзець,
Вот яго пара прыйшла.
А хлопец едзіць, дзяўчыну берадь,
Вот яе пара прыйшла.

* * *

Гаварыў мой лён зялён:
— А бяда мне, бяда,
Што няцёплае лета.
Чаго часта дажджы ідуць.
Не дадуць мне вырасці,
Сінім цветам выцвіцець.

Гаварыла Ганулечка:
— А бяда мне, бяда,
Што кароткае лета.
Чаго часта сваты едуць.
Не дадуць мне вырасці,
Русы коскі выплесці.

* * *

— Кляновая лісціначка,
Куды цябе вецер веіць,
Ці ў бор, ці ў даліну,

Ці ў шчырую баравіну?
— Я й сама не ведаю,
Куды мяне вецер веіць.
— Маладая дзяўчыначка,
Куды цябе татка аддаець,
Ці к свёкру, ці к свякроўцы,
Ці к дзеверу, ці к ятроўцы?
— Я й сама не ведаю,
Куды мяне татка аддаець.

* * *

— Ай, бору мой, барочак,
Чаму, мой бор, не шумён?
— Як я маю шумён быць?
У маім бару пташак няма,
Адна была пташачка,
І тую пташкі забралі
І салавейку аддалі.

— Ай, двору мой, дварочак,
Чаму, мой двор, не мяцён?
— Як я маю мяцён быць?
У маім двары дзевак няма.
Адна была Мар'ічка,
І тую дзеўкі забралі
І Хведарку аддалі.

* * *

У панядзелак рана
Сіняе мора йграла.
А там Мар'ічка ваду брала
І ў мора ўвалівала.
І ў мора ўвалілася,
І ў татулькі прасілася:
— Татулька мой родненькі,
Вылій жа ваду з мора
І вазьмі мяне з гора.

— Дзіцятка мая родная,
Ні ў мяне чаўночка,
Ні ў мяне вясельца,
Не хінецца да чужыны
Мае сэрца.

У панядзелак рана
Сіняе мора играла.
А там Мар'ічка ваду брала
І ў мора ўвалівала,
І ў мора ўвалілася,
І ў Іванькі прасілася:
— Іванька мой міленькі,
Вылій жа ваду з мора
І вазьмі мяне з гора.
— Мар'ічка мая мілая,
У мяне і чаўночак,
У мяне і вясельца,
І хінецца да цябе
Мае сэрца.

* * *

З чыстага полечка гусі лятуць,
З цёмнага лясочку сваты едуць.
— А выйдзі, дзяўчына, пераймі
сватоў.
Варанога каня за абротачку,
Маладога Паўлачку за ручачку.
Варанога коніка ў стаіньку,
Маладога Паўлачку ў хатачку.
Вараному коніку броку-аўса,
Маладому Паўлачку піва-віна.

* * *

Пасадзілі паненачку на дзяжы.
— Хадзі, мамулечка, паглядзі,
Ці добра паненачцы сядзеці,
Ці лёгка мамульцы глядзеці.

А пара, пара лучыначкі паліці,
А пара, пара грабёлачкі шукаці,
А пара, пара русую коску часаці.

А ўжо косачка, ўжо русая
У шаўку пабывала,
А ўжо Наталачка,
Ужо маладзенькая
З дзеўкамі адгуляла.

* * *

Каціласся заранка з падгор'я,
Прасілася наша малада з застолля:
— А, дзяўчаткі, вы, баярачкі, вы
мае,
А пусціце з застолліка вы мяне.
А хоць жа коскамі дварок падмяту,
А хоць я слёзкамі ганак памыю.
— А быў жа табе вольны дзянёчак
— субота,
А была ж табе ў твайго таткі
работа.
Было падмятаць таткаў дварочак
мяцёлкай,
Было ўмываць таткаў ганачак
вадзіцай.

* * *

Ай, вумная-разумная Аксінка.
Сама села застолікам піць-гуляць,

А паставіла сваіх брацітак ў
пілнаваць,
Каб не ўзыйшоў ясны месяц з
зарою,
А каб не прыехаў яе міленькі з
сястрою.

А застольнічкі-свавольнічкі гулялі,
А пільныя брацітки не ўпілнавалі.
А ўзыйшоў ясен месяц з зарою,
А прыехаў яе міленькі з сястрою.

* * *

— Ай, сядзь, дзяўчына,
Па канец стола,
Мы на цябе нагледзімся.
Аддалі цябе дужа далёка,
Не скора ўбачымся.

Ай, тут вуліцы незнаёмыя,
Ай, ты тут блудзіць будзеш,
Ай, тут суседзі незнаёмыя,
Аб цябе судзіць будуць.

— Ай, я вуліцы праведаю,
Не буду блудзіці.
Ай, з суседкамі пазнаёмлюся,
Не будуць судзіці.

* * *

Наша маладая,
Як сыр белы.
Наш малады,
Як пень гарэлы.
Наша маладая,
Як сураежка.
Наш малады,
Як пабаешка.

* * *

— Не стой, Божа, пад вакном,
Хадзі, Божа, ў хатку,
А сядзь, Божа, на куце,
А дай долю сіраце.
— І я ў хатку не пайду,
Я ў сенечках пастаю,
Сіраце долю перашлю.

Дзяўчына ў татулькі дары просіць:
— Татулька родненькі, дары мяне.
— Дачушка родная, чым цябе
дарыць?
— І хлебам і соллю,
І шчасцем і доляй.

* * *

А белая кудравая бяроза,
А бедная наша дзяўчынка сіротка.
Маладзенькая па магільнічку
хадзіла,
Чаравічкамі магілачку страчыла,
І слёзкамі жоўты пясочак мачыла,
Паціхусеньку сваю мамульку
будзіла:
— А ўстань, мая мамулька,
не ляжы,
Хоць жа мне ты гэты вечарочак
паслужы.
— А я не магу, мае дзетанька,
ўстаці,
Грабовы дошкі сціснулі ножкі,
Не магу пайсці к табе.
Сырая зямля на сэрца лягла,
Не магу пачуці цябе.
Жоўты пясочак залёг насочак,
Неяк прадыхнуці.

Траўка-мураўка зарасла вочкі,
Не магу на цябе паглядзеці.
Вечны замочак замкнуў раточак,
Не магу табе парадзіці.

* * *

А зорачка і з месяцам гукала:
— Калі ўзойдзеш уперад за мяне,
Чакай мяне,
Пакуль мы з табой
Кругом свету абойдзем.
А ты, свецячы,
Я, ялеючы, абойдзем.

А Ганначка з Іванькам гукала:
— Калі ўедзеш уперад за мяне,
Чакай мяне,
Пакуль мы з табой
Кругом стала абойдзем.
А ты, йграючы,
Я, ўздыхаючы, абойдзем.
Ты, ручкі ламя,
Я, слёзкі раня, абойдзем.

* * *

Сядзіць галуб на пярэплаце,
Боб клюець,
А ля яго галубка пшаніцу.
— Як клюй, дык клюй,
Мая галубка, ля мяне.
Далягаецца мае пер'іка да цябе.

Сядзіць хлопец за столікам,
Мядок п'ець,
А ля яго дзяўчына — саціцу[12].

---

[12] Саціца — рэдкі (вадкі) мёд.

— Як пі, дык пі,
Мая дзяўчына, ля мяне,
Далягаецца мае сэрдачка да цябе.

* * *

У аўторак рана
Сон бачыла Ганна,
Нікому не казала,
Мамульцы расказала:
— Мамулька мая родная,
А што я за сон бачыла.
Сакалы наляцелі,
Чорны шоўк развярцелі,
Золата рассыпалі.

— Дачушка мая родная,
Праўдзівы сон бачыла.
Сакалы — сваты твае,
Чорны шоўк — коскі твае,
А золата — слёзкі твае.
Сваточкі наедуці,
Косачкі расплятуці,
Слёзачкі разліюці.

* * *

Бяроза з лістам, бяроза з лістам
Усю восень гаварыла:
— А мой лісточак,
а мой зялёненькі,
Ты ж мяне пакідаеш.
— Нябось, бяроза, нябось, белая,
Я цябе не пакіну.
Я к табе вясной прыду,
З табою шумець буду,
Цябе зелянець буду.
Дзяўчына з мамкаю, дзяўчына
з мамкаю

Усю ночку гаварыла:
— Дачушка мая, родная мая,
Ты ж мяне пакідаеш.
— Мамулька мая, зязюлька мая,
Я цябе не пакіну,
Я к табе ў госці прыду,
З табою гукаць буду,
Усё гора казаць буду.

* * *

Цёмная ночанька, цемната,
Дзе ж мая дзелася пекната?
За табой, міленькі, за табой
Не бачу сцежачкі за слязой.
Масціла кладачку сем нядзель,
Гасціла ў мамулькі адзін дзень.
Масціла кладачку тры гады,
Гасціла ў мамулькі на Дзяды.
На вяселліка пазвалі,
Чаркі гарэлкі не далі.
Каб я ведала, не пайшла,
Ці б я сабе работкі не знайшла?
Я б за печкаю сядзела
І кудзелечку вярцела.

* * *

Сакол на вылёце
Сеў-паў на вароцях,
Крыллікам махаючы,
Пташачак збіраючы:
— Ка мне, пташачкі, ка мне,
Палечу я з вамі
Ў шчырыя бары,
Ў зялёныя сады
Па шэрую зязюлечку.
Іванька на выездзе
Сеў жа ён за столікам,

Насовачкай махаючы,
Дружыну збіраючы:
— Ка мне, дружына, ка мне,
Паеду я з вамі
Ў вялікае сяло,
Ў багатую хату
Я па сваю Мар'ічку.

* * *

Садавая яблынка зграбненька
На ўзгор'ю стаяла.
Белым цветам зацвіла,
Тры яблычкі дала.

Маладая Ганначка
Усю ночку не спала
Дык дачушку даждала.

Хоць набралася мукі,
Ды пярэміць жа рукі.
Хаць набрала гора,
Прынясець вады з мора.

* * *

Дзяўчынка маладая,
Галоўка разумная.
Пайшла яна на рыначак,
Купіла кубачак мёду.
Свякроўку прывітала,
Работку папытала.
— А йдзі, мая нявестачка,
Ў крыніцу па вадзіцу,
У клець па мучыцу.
У сянёх даёначка,
У хлеве каровачка.
Вот твая работачка.

* * *

Як заручалі, тады казалі,
Што ў свата кароў многа.
Як пайшла даіць,
Адзін бык стаіць,
І той не доіцца.
Вазьму я быську
Ды за пумпыську:
А дай, быська, малака!

* * *

Сарока па двару ходзіць,
Золата ў хвасце носіць,
А цешча зяця просіць:
— Зяцёк мой, сыночак,
Не ходзі ты ў шыночак,
Дам табе чатыры бычкі,
Не бі маёй дачкі,
Пятую цялушачку,
Не бі маю дачушачку.
— Я тваіх бычкоў прап'ю,
Я тваю дачку наб'ю.
Зарэжу цялушачку,
Наб'ю тваю дачушачку.

* * *

А што за вечар, што за
гадзіначка настала.
Наша малада па татулечку паслала.
— А няхай жа мой татулечка
паслала,
А няхай жа ён маю сялібу агледзіць.
— А я прыеду, мая дачушка, начою,
А я агледжу тваю сялібу з свячою.

* * *

А добра, добра наша Мар'ічка чыніла,
Што не хадзіла ў шчырыя бары ў
арэшкі,
Што не нарабіла сваёй радзіне
пасмешкі.
Ай, добра, добра наша Мар'ічка
чыніла,
Што хадзіла ў зялёны лугі ў каліну,
А пакрасіла ж яна ўсю сваю радзіну.

* * *

А рассцяліся, белая бяроза, па
зямлі,
А пакланіся, наша дзяўчына,
ўсей радні.
Ані старога, ані малога не мінай,
Сваёй мамулечцы да ножачак
прыпадай.

* * *

— А куды ты, наша дзяўчына,
глядзела,
Ай, за такога прыгожага хацела?
— А я глядзела ў шкляное
ваконца,
Я ўбачыла свайго мілага, як
сонца.

* * *

— Жані мяне, татка,
Жані маладога.
— Жаніся, дзіцятка,

Ўсё будзіць гатова.
І хамут у стрэсе,
І дуга ў лесе,
А конік на пашы,
Дзеўка на кірмашы.
А конік гагочыць,
Дзеўка замуж хочаць.

* * *

А цераз бор дарожанька-чарназём,
А там ехаў молад хлопчык
чарнаброў.
А ён думаў, што зязюлька кукуіць.
Гэта ж яго татка з мамкай бядуіць:
— А дзе ж нашых пара дзетак
начуіць?
Калі ў дарозе на перавозе,
Крый Божа!
Калі ў цясцёчка за столікам,
Дай Божа!

* * *

А ў нас сягоння ды заручыны,
Бог нам даў.
А наш Іванька заручаецца.
Бог нам даў.
А яго мамулька суцяшаецца,
Бог нам даў.
— А мой сыночак заручаецца,
Бог нам даў.
Звязлі сем пудоў мукі
На каравай.
А, Божа мой моцны,
Каравай наш поены,
Бог нам даў.

* * *

Ай, нуці-нуці,
А не марудзце, сваточкі.
Ай, запрагайце
Маляваныя вазочкі.
Выпраўляйцеся,
Выладжвайцеся, сваточкі.
Ай, мы паедзем
Горы-даліны раўнаваць,
А мы павязём
Сваю паненачку гараваць.
Ай, гаруй, гаруй,
Наша паненачка, не кайся,
А як паедзеш
Да мамкі ў госцкі —
Не дужа жалься.

* * *

Дзяўчына к вянцу едзіць,
А долечка ў варотах.
— Доля мая, доля,
Калі ты добрая,
Садзіся са мною,
Паедзім з табою.
А калі ты дрэнная,
Ідзі вадою
Ад мяне маладое!

* * *

А ў нашага свата
Багатая хата:
З пірагоў збіта,
Блінамі накрыта,
Абаранкам замкнёна
І паўлітра ўтаркнёна.

А ў нашага свата
Саламяная хата,
Ні клеці, ні павеці —
Недзе коні падзеці.

* * *

Адчыні, мамулька, ваконца,
Вязуць табе нявестку, як сонца.
Адчыні мамулька, карытца,
Вязуць табе нявестку сварыцца.
Адчыні, мамулька, новы тын,
Вязуць табе нявестку, як твой сын,
Адчыні, мамулька, новы двор,
Вязуць табе нявестку на выбор.

* * *

Ляцелі пташачкі па тры
стадачкі,
Зязюля папераду.
Пташачкі палі, зашчабяталі,
Зязюля закукавала.
Ішлі паненачкі цераз сеначкі,
Мар'ічка папераду.
Паненачкі селі, песню запелі,
Мар'ічка заплакала.
Ў яе мамулька, ў яе родная
Ціха запытала:
— Чаго, дачушка, маё дзіцятка,
Так сільненька плачаш?
— Мамулька мая, родная мая,
Як жа мне не плакаці?
Я сама знаю, мне людзі кажуць,
Апошні дзянёк гуляю.

* * *

А на дварэ пагодачка ці будзіць?
А нашая маладая
Свайму свёкарку ці дагудзіць?
А дагуджу, мая мамулечка,
Дагаджу,
А я з мяцёлачкай каля восеці
Пахаджу.
А на дварэ пагодачка ці будзіць?
А нашая маладая сваёй свякроўцы
Ці дагудзіць?
Я дагуджу, мая мамулечка,
Дагаджу,
Я з палонічкам каля печачкі
Пахаджу.

* * *

Казалі: на моры вады многа,
А прыйшлі чарэпаць са дна сухога.
Казалі: ў Ганначкі радні многа,
А як сталі дарыці, — няма
нікога.
Цётачкі, дзядзечкі па запеччыку,
Сястрыцы, бараціткі па
заплеччыку.
Пайшлі па хатах суседзі старыя,
Пакламіся спаці дзеці малыя.

* * *

За лесам, лесам
Ды мядзведзь рыкаіць.
Ой, будзіць табе, дзетка,
Свякроўка ліхая.
Я сваю свякроўку
У пярыну ўкіну,
Я сваму мядзведзю

Саладзін падкіну,
Спі, мая свякроўка,
Не прачхніся,
Спі, мой мядзведзька,
Не насіся.

* * *

Аставайся, мая мамулька, здарова,
А падпала ка мне
З Украіначкі дарога.
А ты будзеш, мая мамулька,
Тужыці,
А я буду чужой свякроўцы
Гадзіці.
А ты будзеш, мая мамулька,
Бедаваці,
А я буду чужой свякроўцы
Слугаваці.

*Ідзі, кумок, касі, мяту,*
*Накрый куме хату…*

## ХРЭСЬБІНЫ

* * *

А запаржыце каня варанога,
А завязіце кума маладога.
А наш кумочак паездзінкі любідь,
А можа ж, нам ён гарэлачкі
купіць.
А запражыце авечку-пузатку,
А завязіце бабульку ды ў хатку,
А запражыце авечку-сівушку,
А завязіце бабульку-шчырушку.
А наша бабка паездзінкі любіць,
Тады ж яна нам гарэлачкі купіць.

* * *

І дождж ідзець,
І снег падзець
На куміну хату.
Ідзі, кумок,
Касі мяту,
Накрый куме хату.
Ідзі, кумок,
Касі сена,
Накрый куме сені.

* * *

А вы, столікі, вы цісовыя,
А чаго вы стаіцё
Не засланыя ў мяне?
А вы, госцікі, мае любыя,
А чаго вы сядзіцё

Невясёлыя ў мяне?
Ці мой хлеб не пушон,
Ці мой хмель не вясёл?
Адкажыце шчыра мне.
Як мой хлеб не пушон,
Я яго падпушу.
Як мой хмель не вясёл,
Я яго падвесялю.

* * *

Па лугу бабка хадзіла,
Карэнніка капала,
Настоічкі стаўляла,
Радзішачку паіла.
Каб яе ўроцы не бралі:
Жаноцкія пасмехі,
Дзявоцкія пагляды.

* * *

А пазавіце Іванечку з току
Хай прынясець ён
Вішнёвагаа соку.
— Калі сыночак, —
За морам здабуду,
Калі дачушка, —
Дык так абыйдзецца.

* * *

Ты, кумочак, сорам май,
А на мыла рубля дай.
Радзілася паненачка,
Хочаць мыцца беленька.
Штодзянёчак фунточак,
А ў нядзельку пудочак.
Добра, добра бацьку мець,

Адчыняе бацька клець.
Не паспелі песню спець,
А ён жа нам дары шлець.

* * *

— А чаго ты, яліненка, не зялёна?
— А як жа мне, ялінечцы,
зяляной быць?
Пада мной два купчыкі начавалі.
Яны мне суччa-вецце паламалі.
— А чаго ты Мар'ічка, не вясёла?
— А як жа мне маладой вясёлай
быць,
Калі мяне мой Іванька зневажаіць,
Істопачкі, каморачкі замыкаіць?
А я йстопачкі, каморачкі
адчыніла,
Усю сваю бяседачку нанаіла.

* * *

Піва п'яна, піва п'яна,
Гарэлачка горка.
Захварэла,задурэла
Стахванава жонка.
Трэцці гадок,
Як п'ець мядок,
Дамоў не бываідь.
А хто ж яе маладзенькай
Хаткі даглядаіць?
А ёсь жа ў яе служкі —
Сынкі ды дачушкі.
Сыночкі загонюць,
Дачушкі падоюць.

* * *

Ні на кога мне не жаль,
Як на татку свайго.
На каго ён памяняў,
Мяне замуж аддаў, —
Ці на хату багату,
ЦІ на коні вараных,
Ці на служак маладых?
Хоць і хата багата,
Невясёла. мне жыць,
Хоць і коні вараныя,
Мне не ездзіць на іх,
Хоць і слугі маладыя,
Не загадаваць мне.
Самі сядуць абедаці,
Мяне шлюць па ваду.
А нясу ж я ваду, прыслухаюся,
Сям'я мужа навучаіць,
Нагавараваіць:
— Ты чаму жонку не б'еш,
Жонцы волю даеш?
— А за што мне жонку біць,
Калі з жонкай міла жыць?

* * *

— Каліна-маліна мая,
Чаго ты не так зеляна,
Як ў Пятроў дзень была?
— А дайце ж мне ночы цёплыя,
А дайце ж мне росы мокрыя.
Тады буду так зеляна,
Як у Пятроў дзень была.
— А Ганначка, душка мая,
Чаму ж ты не так малада,
Як у мамулькі расла,
Як ты ў татулькі расла?
— Дайце ж мне волю таткаву,

Дайце ж мне негу мамчыну,
Тады буду так малада,
Як ліпінка, што ў саду цвіла.

* * *

А чый галуб ляціць на дуб,
А мой на бярозу.
Чые мужы п'юць-гуляюць,
А мой у дарозе.
А калі ж ён у дарозе,
Пашчась яго, Божа.
А калі ж ён у карчомцы,
Забі яго, Божа.
А калі ж ён у дарозе,
Пашчась пірагамі,
А калі ж ён у карчомцы,
Забі перунамі!

* * *

А я б гэту бабку,
А я б гэту любку
Я б у бабкі не браў.
Не часта хадзіла,
Не смашна насіла,
Адзін раз і з юшкай,
Другі з калатушкай
На пахмелкі прыйшла.

* * *

Усе людзі жыта сеюць,
А я сваё гора.
Усе людзі Бога просяць,
Каб жыта ўрадзіла.
А я хаджу, прашу Бога,
Каб гора не ўсхадзіла.

Як узыйшло мае гора
Шырокім лісточкам,
Зацвіцела мае гора
Жоўценькім цвяточкам.
Ўзыйдзі, ўзыйдзі, мая доля,
Цёплымі садамі,
Цвіці, цвіці, мая доля,
Рознымі цвятамі.
Усе цветы — пустацветы,
Адзін васілёчак.
Уся сям'я нелюбая,
Толькі міл дружочак.

* * *

Ясна-красна на небе зара.
Міла і люба Іваньку жана.
Пашыў ей шубачку з сямі сабалёў:
— Мар'ічка-душачка, насі шубачку.
Насіўшы шубачку, ды не падбівай,
Раджаўшы дзетачак, ды не
старыся.
Гаруй гора, ды не скаржайся.
— Іванечка-дарагушачка,
няпраўда твая.
Насіўшы шубу, мушу падбіваці,
Радзіўшы дзетачак, мушу
старыцца,
Гаруючы гора, мушу скаржацца.

* * *

Цераз кладачку, цераз гібкую
Мужык жоначку вядзець.
— Ах ты кладачка, ах ты гібкая,
Ты не гніся пада мной.
Ой ты жоначка, мая мілая,
Не сварыся ты са мной.
Выпі чарачку-пазлачаначку,

Ой, не будзь жа п'яненька,
Радзі сем сыноў і дачушачку,
Ой, не будзь жа старанька.
— Ах, мой міленькі, ай, мой
любенькі,
Ўся ж няпраўдачка твая.
Вып'ю чарачку-пазлачаначку,
Мушу быць я п'яненька.
Раджу сем сыноў і дачушачку,
Мушу быць я старанька.

* * *

Наварыў брацец піва п'янага,
А зазваў радню ўсю багатую.
А па бедную ён і сам не йдзець,
Ён і сам не йдзець і паслоў не
шлець.
А я бедная ды сама прыйшла,
Занядбаная ды нязваная.
Як багатыя на куце сядзяць,
А як бедныя — ў канцы століка.
Як багатыя, — яны п'юць, пяюць,
А як бедныя, — горкі слёзы льюць.

* * *

А як выйду я за вароцечкі,
Кругом чужа старана.
А туды, сюды дзве дарожанькі,
А ў мой сад адна.
— Ай вы, сёстрачкі, вы сяструлечкі,
Вы куды ідзіцё?
— А ідзём жа мы у зялёны сад
Мёд-гарэлку піць.
— А як будзеце мёд-гарэлку піць,
Успомніце пра мяне:
А дзе ж тая сіраціначка
У чужой старане?

* * *

А спіралася* бабровачка
З баброчакам:
— Лацьвей табе, мой баброчака,
А не мне.
А ты палеціш на сіне мора,
А я не.
А ты будзеш купаціся,
А я не.
На беражочку страхаціся,
А я не.
А спіралаея млода Ганначка
З Іванькам.
— А лацьвей табе, мой
малойчыку,
А не мне.
А ты будзеш у роднай мамулькі,
А я не.
Цябе будуць паціхусеньку
Будзіці,
Мяне моладу выйдуць на вулку
Судзіці.

* * *

А я ў піру была,
З піру я дамоў прыйшла.
А дома журбу знайшла.
Свёкар па сянёх ходзіць
І ў руках бізун носіць.
А мілы за ім ходзіць,
Свайго татульку просіць:
— Не бі жонку бізуном,
Ні каляным рукавом,
Не бі жонку цвярозую.
Бярозка гібучая,
Мне жонка балючая.
Бярозка з макушкамі,

А жонка з дачушкамі.
Бярозка бяленькая,
Мне жонка міленькая.
Бярозка і з веткамі,
А жонка і з дзеткамі.

* * *

Дзякуй тому х.юшку,
Што нам зробіў пірушку.
І ў ручачкі не хукаў,
Малаточкам не грукаў.

* * *

А на дварэ шум-шум.
— А хто едзіць?
— Кум, кум.
— А што вязець?
— Акуні.
— А для каго?
— Для кумы.

* * *

А кум куме рад,
Павёў куму ў вінаград:
— Шчыпі, кума, ягодкі,
Каторыя салодкі.
Каторыя сладкі, —
Для маёй маткі,
Каторыя горкі, —
Для маёй жонкі.

* * *

Кум не п'ець,
Кум не п'ець,

Кума не хочаць.
А ў кумы пад пупам
блыха шчакочаць.
— Ты, кумок, галубок,
Не будзь у граху,
Паганяй у кумы
Пад пузам блыху!

*Люлі-люлі-люлі,*
*Пайшоў кот у дулі.*

## КАЛЫХАНКІ

* * *

Сядзіць кошачка на кухні,
Аж яе вочкі падпухлі.
— Чаго, кашачка, ты плачаш,
Ці піткі-есткі хочані?
— Піткі-есткі я не хачу,
Па сваім горачку плачу.
Сам кухар смятанку злізаў,
На мяне, кошачку, сказаў.
Маніўся мне лапкі пабіць.
Чым жа буду шчурак лавіць?

* * *

Люлі-люлі-люлі,
Пайшоў кот у дулі.
Памарозіў лапкі,
Скочыў на палаткі.
Сталі лапкі грэцца,
Недзе катку дзецца,
Сталі лапкі сохнуць,
Трэба катку здохнуць.
Будзем лазню паліць —
Катку лапкі парыць,
Катку лапкі парыць,
Катку хвосцік правіць.

* * *

Чыкі-чыкі, чыканачкі,
Едзіць баба на саначкі,
Пытаецца ў Васіля,

Ці далёка да сяла.
Вась праўды не сказаў,
У балота паказаў.

* * *

Люлі-люлі-люлі,
Прыляцелі вулі,
Селі на вароцях
У чырвоных боцях,
Сталі вуркатаці,
А што вулям даці.
Ці гароху троху,
Ці ячменю жменю,
А ці жартаў кварту,
Ці паўмеха смеху,
Ці прыпол пшаніцы,
Той, што куркам сніцца?

*І вяселле ў нас,*
*І ігрышча ў нас...*

## ЗАСТОЛЛЕ, ПАЦЕХІ, СКОКІ.

* * *

Гарэлачка-шамбэрачка,
Як я цябе люблю.
А хто ж цябе піці будзіць,
Як я молад памру?
Будуць піці і гуляці
Суседзечкі мае.
Будуць, будуць спамінаці
Пра моладца мяне.

* * *

Хто п'ець, хто п'ець,
Таму надлівайце.
Хто не п'ець, хто не п'ець,
Таму не давайце.
А мы піць будзем
І гуляць будзем,
А прыдзіць смерць, —
Паміраць будзем.
І смерць прыйшла,
Мяне дома не знайшла.
А ў карчомцы я сяджу
І гарэлачку цаджу.

* * *

Ай, Іванька, выпі
Пры вясёлым скрыпе
А за сябе поўную,
А за Кулінку роўную.
Вот табе слава,

Вот табе чэсь.
Запатую чарачку
Да дна гнеш!

* * *

П'ян я, п'ян, ды не павалюся.
Прыйду дамоў, жонкі не баюся,
Жонка мая — чырвоная мята,
Люблю цябе, хоць ты небагата.
Жонка мая — зялёная жычка,
Люблю ж цябе, хоць ты
невялічка.
Жонка мая — чырвоная вішня,
Люблю цябе, што ты — мая мысля.

* * *

Па загрог'іку
Сінія краскі цвіцелі.
Па застолліку
Любыя госці сядзелі.
А цвітуць-цвітуць
Сінія краскі й адпадуць.
А сядзяць-сядзяць
Любыя госці й паедуць.

* * *

Падыйшоў, падыйшоў
Казёл пад ваконца, —
Ці прадуць, ці цягнуць
Дзеўкі валаконца?
А каторая прадзець, —
Казёл танец павядзець,
Каторая не прадзець, —
Казёл рогам забадзець.

* * *

Як кісель, дык кісель,
Дык і жур густы,
А каб тому кісялю
Чырвоныя боты.
Як пайшоў бы кісель
Ды па вуліцах гуляць,
Ды па вуліцах гуляць,
Красных дзевак забаўляць.

* * *

Казаў бацька: казу дам
І з маленькім казяням.
Будзем казу даіці,
Казянятак паіці.
Казу дам, казу дам
І з маленькім казяням.

* * *

Бокам-бокам, Наталка,
Як танцуіць Міхалка.
Бокам-бокам нясецца,
Аж чупрына трасецца.
Топ-топ, скок-скок,
Мalады драздок.

* * *

Маладому Чувілю
Жарам пяты пасалю.
Я на вуха Чувілю
Пашапчу, каго люблю.
Чувіль мой, Чувіль,
Віль-віль-навіль,
Віль-віль-віль.

* * *

Піце, госцікі, піце, любыя,
Частуйцеся ў нас.
Як паедзеце вы дамовачкі, —
Не судзіце аб нас.
Гаспадынька гладка,
Яна наша матка.
Частуй гасцей,
Каб бывалі часцей!

* * *

А ядуць госці, ядуць,
Як мяцёлачкай мятуць.
На стале ні крошачкі,
Пад сталом ні костачкі.

* * *

Гарэлачка горка,
Пра яе гаворка.
Гарэлачка, Божа мой,
Што з цябе бярэцца?
Адзін скачыць,
Другі плачаць,
А трэці смяецца.
Гарэлачка, Божа мой,
Адабрала розум мой.

* * *

Гарэлачку я люблю,
Гарэлачкі дайце.
Як уп'юся, павалюся,
Хлопцы, не зявайце!

* * *

Без музыкі, без дуды
Ходзюць ногі не туды.

* * *

Ой, іграйце вы, музыкі,
Далібог.
Не шкадуйце вашых ручак,
Нашых ног.

* * *

Ай, лапці мае,
Лапацёнкі мае,
Ізнасіліся, не спрасіліся,
Істапталіся, не спыталіся.
Лапці лён падымалі,
Лапці аж сюды дапалі.
Ай, іграйце, музыкі,
Ў мяне лапці вялікі.

* * *

Іграй, мая дудка,
Ды не торгайся.
Пап'ём, паядзём
Ды разойдземся.
І вяселле ў нас,
І ігрышча ў нас.
Хаваемся у салому,
Няхай ішчуць нас.

* * *

Ой, паедзем мы, пайдзём,

Надаелі мы людзём.
Выпіла, закусіла,
Сама сябе пахваліла.
Захінулася ў куток —
Па тры чарачкі ў раток.

* * *

Выпі, выпі ды пастаў,
Каб жа мілы не дастаў.
А як мілы дастаець,
Ён па шыі надаець.

* * *

А бадай жа наш
Гаспадарочак упіўся,
А можа б, ён
На ключыкі забыўся.
А старой сто гадоў,
А старому дзвесце.
Стары весвіцу майструіць
На старую ўзлесці.

* * *

— Ай, Полінька, Полінька,
А што ў цябе голенька?
— Не брашыце, зладзеі,
Занялося кулзеляй.

* * *

Кавалішанька, мая вішанька,
Не кажы ты кавалю,
Што я цябе павалю.
— А хоць на мяжы палажы,

Толькі майму кавалю не кажы.

* * *

Асаку пасяку,
Траву паламаю,
Мужа спаць палажу,
Сама пагуляю.

* * *

Як пашыю я спаднічку
Ў чатыры аборкі.
Хачу дома заначую,
Хачу — у Ягоркі.

* * *

Зроблю дзверы із паперы,
Каб хадзілі кавалеры.
Бацька дома не начуіць,
Матка глуха — не пачуіць.

* * *

Стары, стары, лезь на печ,
Стары расстагнуўся.
Стары, стары, лез на бабу,
Стары рассмяяўся.
Калыхала баба дзеда
Ў дубовым карыце.
Як ускочыў дзед на бабу,
Хацеў задавіці.

* * *

Наелася буракоў,
Напілася квасу.
Манілася хлопцу даць,
Не дабрала часу.

* * *

А на вуліцы мяцеліца мяцець,
А дзед бабу за пяцеліцу вядзець.

* * *

Ай, забрала, забрало
І ножачкі задрало.

* * *

Чаго тады не прыйшоў,
Як я цябе клікала.
Усю ночку на палочку
Ножка аб ножку пстрыкала.

* * *

Чаго тады не прыйшоў,
Калі я казала,
Усю ночку на палочку
Дагары ляжала.

* * *

Чаго тады не прыйшоў,
Як я гаварыла?
Бацька свінку закалоў,

Мамка ножку зварыла.

* * *

Мой мілёнак у лясу,
Яму снедаць панясу,
Курачку гарачую
На шышачку стаячую.
А такую яго маць,
Гэтага Міколку.
Я хацела яму даць,
А ў яго з іголку.

* * *

Акалі ты бондал,
Дак набі мне бочку,
А я табе заплачу,
Падняўшы сарочку.

* * *

І стар, і нядуж,
І крывы на нагу,
Як убачу маладую,
Ашалеўшы, бягу.

* * *

І святы б паскакаў,
Каб гарэлкі паспытаў.

* * *

Ты — дуб, я — бяроза,
Ты п'ян, я цвяроза.

* * *

Руку ўгору, с.аку ўніз,
Каб радзіўся камуніст.

* * *

Цераз рэчку жэрдачка,
На тым баку сэрдачка.
Клічу, клічу, не чуіць,
Няхай з Богам начуіць!

* * *

Ты мой дзед, ты мой дзед,
А я твая бабка.
Шануй мяне, даглядай,
Каб я была гладка.

* * *

Ай, наскачу, паскачу
Свайму бацьку-смаркачу,
А мамачцы-любачцы
Прынясу я ў люлечцы.

* * *

Расхадзіліся суставы
Каля печы, каля лавы.
Самы меншы сустаў
З тапарышчы ўстаў.

* * *

Ажажніўся мяшок,

Узяў торбачку.
Туды-сюды павярнуў —
Цмок у мордачку.

* * *

Ці не Бог табе даў,
Мая Настачка, —
Усю ночку макаў,
Як у маслачка.
Салавей,салавей,
Што на свеце саладзей,
Ці гарэлка, ці мядок,
А ці ў дзеўкі перадок?

* * *

Дождж ідзець, дождж ідзець,
З неба капаіць,
Ніхто замуж не бярэць,
Толькі лапаіць.

* * *

Дождж ідзець, дождж ідзець
І па даху лопаіць,
А мой мілы мяне любіць
І нагамі топаіць.

* * *

Раней былі гарбузы,
А цяпер гарбузікі.
Раней былі кавалеры,
Цяпер карапузікі.

* * *

Не глядзіце на мяне,
Што я невялічка.
Надзенуся, прыбяруся,
Буду, як брусьнічка.

* * *

Мой муж нядуж,
Паехаў за рэчку.
Судзі Бог, — каб здох,
Паставіла б свечку.

* * *

Хоць боб няполены,
Дык пуп наколены.
Мамулечка, бабок ела,
Мамулечка, набубнела.
Мамулечка, ай, бабочак,
Не сходзіцца вараточак.

* * *

А я ў бару грыбы бяру,
Каля межы — сураежы,
Каля поля — мухаморы.

* * *

Як пайду я на сіне мора
Платкі праць,
А як зойдуцца мае ручачкі,
Хоць ты плач.

* * *

Мы, цыгані, добры людзі,
Куды паедзем, і там жыць будзем.
Мы не пашам і не косім,
Куды ні пойдзем,
І там папросім.
Стары цыган піпку курыць,
А цыганка дзевак дурыць.
Стары цыган на парозе,
А цыганка у дарозе.
У цыганкі хвартух новы,
А ў цыгана х., дубовы.
Хвартух новы не парвецца,
Х.. дубовы не сагнецца.

* * *

Выйду я на рэчаньку,
Пагляджу на быструю,
Ці не ўбачу я сваю
Мілую сукрыстую.

* * *

Зялёна дуброва рана зашумела,
А я маладая замуж захацела.
Зялёну дуброву рана не пажалі,
Мяне маладую замуж не аддалі.

* * *

Нашто барыні панчошкі,
А ў барыні белы ножкі.
Падзяржы маю кажару,
А я барыню аджару.

* * *

А барыня-удава
Паехала па драва,
Зачапілася за пень,
Прастаяла цэлы дзень.
Каб не тыя кавалеры,
Прастаяла б да вячэры.
Каб не тыя панічы,
Прастаяла б да начы.

* * *

Ах, чух, Марысіца,
Хвартух калышацца.
Ах, чух, Магдалена,
Хвартух да калена.

* * *

Танцуй, Васіліха,
Прыдзіць Васіль, —
Будзіць ліха.
Васіліха Васіля
Качалкаю зацяла.
Васіль плачаць,
Васіліха скачыць.
Не руш мяне, не чапай,
Я табе не роўна.
Ты сталяр і маляр.
А я бандароўна.

* * *

Упілася на мяду,
Дамовачкі не дайду.
Ёсь у мяне маладзец,
Ён дадому давядзец,

Ён дадому давядзець
І ў пасцельку пакладзець.
Няма ў свеце лепшай рэчы,
З кавалерам спаці легчы,
Ён цалуіць, і мілуіць,
І жаніцца дакляруіць.

* * *

Сяду я на куце,
Рукі закасаўшы.
Стаіць мілы у парозе
Ён шапачку зняўшы:
— Дзякуй табе, мая міла,
Што не крэпка біла,
Куплю табе гарчык мёду,
Конавачку піва.
А Божа ж мой мілюсенькі
Па кім я ўдалася,
Усе людзі цвярозыя,
Адна я ўпілася.
А Божа ж мой мілюсенькі
За што я гарую,
Запрагу кабылу ў сані
І сама кірую.

* * *

Ай, капут, капут, капут,
Прадала капусты пуд,
І кашолачку грыбоў,
І кавалера без зубоў.

* * *

Дзякуй, дзякуй камбайнёру,
Што вісока пакасіў.
Баба пуза накалола,

Дзед тры тыдні галасіў.

* * *

Ой, дзяўчаткі дарагія,
Я вам болей не слуга,
Затупіўся мой свярдзёлак
І сагнуўся, як дуга.

* * *

Учора рыбка была,
Сягоння галоўкі,
Учора госці былі,
Сягоння дамоўкі.

* * *

— Чыя гэта верба,
Чыя гэта вішня,
Чыя гэта дзеўка
На вуліцу выйшла?
— Мая гэта верба,
Мая гэта вішня,
Мая гэта дзеўка
На вуліцу выйшла.

* * *

А паедзем дамовачкі, йграя,
Ці не будзіць нам
Цёмная ночка відная.
Ці не будзіць нам
Гарэлка салодка,
Ці не будзіць нам
Даўгая дарожка каротка?

* * *

Упрысядкі прысядаў,
За касматую хватаў,
А за тую касматую
Тры дні сядзеў за хатаю.

* * *

Ой, сват, ты мой сват,
Не бяры мяне за зад,
Бяры мяне за пярод,
Тады мяне забярот!

* * *

Бацька лапці сплёў
На святы Пакроў.
Матка аборы савіла,
На Прачыстую дала.

* * *

Няма таты, няма мамы,
Некага баяцца.
Пойдзем, мілы, ў кабінет,
Будзем цалавацца.

* * *

Я любіла пісара,
Шырокая лысіна.
Яму некалі пісаць,
Толькі лысіну часаць.

* * *

Мая мілка, як кабылка,
Толькі розніца адна:
На кабылцы ездзяць людзі,
А на мілцы толькі я.

* * *

Адна ластаўка на пуні,
А другая на таку.
Лепі пакуллем заторкну,
Ды не дам я дураку.

* * *

Сабе сама дзівілася,
Чым я зіму карміласяя.
Паглядзела паміж ног,
А там стаіць сена стог.

* * *

А Лявоніха, іціт тваю мацць,
Не хадзі маю капусту ламаць.
Я хадзіла і хадзіць буду,
Я ламала і ламаць буду.
А ў капусце мае достачкі
Паламалі ў п...дзе костачкі.

* * *

Охі, охі, охі, охі,
Завяліся ў п...дзе блохі.
А вы, хлопцы, не зявайце,
З п...ды блохі выганяйце!

* * *

Настасся зняслася,
Хадосся з яйцом.
Мой браце Кандраце,
Пашчупай канцом.

* * *

Мельнік-круцельнік,
Вядзі мяне ў ельнік,
Накрый мяне елкаю,
Каб я была ц...каю.

* * *

Нясла Каська быку сена,
Бык на Каську — Каська села.

* * *

У бабы цымбалы,
У дзеда кручкі,
Паабедаў, паснедаў —
Дай, баба, цацкі!

* * *

Упілася ж я,
Не за ваша ж я.
Мая курка зняслася,
За яечка ўпілася.

* * *

Баба дзеда хараніла

І па дзеду плакала:
— А дзе ж тое матавіла,
Што на пузе мякала?

* * *

Танцуй, танцуй ды прыстой
Караценечкі з таўстой!

* * *

Ой ты, мілачка мая,
Каб цябе халерыя.
Колькі мыла ні купляў,
А ты ўсё не белая.

* * *

Жыў быў — не любіла,
І памёр — не тужыла.
Ён у яме ляжыць,
А я й не думаю тужыць.

* * *

Прыйшоў кум да кумы:
— А дай, кума, чапялы.
Кума нагу падняла:
— А во табе чапяла!

* * *

Ішоў кум гародам,
Кума вуліцай.
Трос кум пятухом,
Кума курыцай.

Ой, сіські-грудзь
Падцзёўку труць.
Я багатым жыдам
Свае сіські прадам.

* * *

Цыган цыганку весяліць:
— У мяне даўно стаіць
На стале бутэлечка.
Давай вып'ем зеллечка!

* * *

Ой, ты, мая Домна,
Прыдзі ка мне цёмна.
Твая ступа, мой таўкач,
Будзем крупы абтаўкаць.

* * *

У нашай Вушачы
Пракладзены труды.
А ў нашага пяюна
Па тры метры губы.

* * *

Украіна-старана
Хлебаробная,
Саветам хлеб аддала, —
Сама галодная.

* * *

Камсамольцы чыста ходзюць,

Як бы іх не закачаць
Нашы дзеўкі рукі мыюць
З камсамольцамі гуляць.

* * *

Ой вы, немцы і палякі,
І розныя аўстрыякі,
Збіраліся цэлы дзень,
Сабралася адна дрэнь.

* * *

Што так густа дым дыміць,
Ці не Ўшача там гарыць?
Не згарэў бы Божы храм,
Дзе вянчацца, дзеўкі, нам.

* * *

Што вы, дзеўкі, седзіцё,
А няўжо не чуеце,
Ужо музыка іграіць,
А вы не танцуеце.

* * *

А куды ж ты пайшоў,
Шапачку накінуў,
А каму ж ты мяне,
Бедную, пакінуў?

* * *

А ты стары,
Агнём гары!

А я малада,
Як ягада.

* * *

Прыязджайце, татар'ё,
Забірайце ўсё стар'ё:
І коні някованых,
Дзевак выбракованых.

* * *

Нікому так не ўдалося,
А як нашай сірацe:
З'ела курку ды з ножкамі, —
Трапечацца ў жываце.

* * *

У полі дубок ілаваценькі,
А наш Іванька кілаваценькі.
У поле гоніць — і кіла звоніць,
На кароў крычыць — і кіла
вурчыць.

* * *

Чарнобыль, чарнобыль,
Таўстое быллё.
Хто мяне не любіць,
Г...но кабыллё.

* * *

Ажаніўся г... накоп,
Узяў жонку каку,

Палажыўшы на лавачку,
Цалуіць у с...ку.

* * *

І пад груддзю баліць,
І пад сэрцам баліць.
Толькі там не баліць,
Дзе мужык шавяліць.

* * *

Ай, маці мая, маці,
Нашто рана жэніш,
Я не буду з жонкай спаці,
Дзе ты яе дзенеш?

* * *

А ў нашага свата
Яловая хата.
А дроў ні палена,
А х.. па калена.

* * *

Ой, дзякаваць Богу
За трэццяю ногу,
Хоць яна каротка,
Затое салодка.

* * *

Мяне мілы пакідаіць,
Мне на гэта напляваць,
Я такога палоніка

Магу рэшатам спаймаць.

* * *

Выйду я на ганачак,
Гляну я на возера.
Жалка, жалка мне таго,
Каго зіма марозіла.

* * *

Ці бачылі, а мальцы,
Баравога зайца?
Сам шэр, хвост бел,
Паджарыя я. .цы.

* * *

Як я была малада,
Дык была балесная,
Хто прасіў, таму давала,
Замуж выйшла чэснаю.

* * *

кладзіся пад машыну,
Пад цяжкое кола,
А кладзіся пад шафера —
Цёпла і вясёла!

* * *

Не руш мяне, не чапай,
Я — дворная дзеўка,
Паміж лытак клубок нітак,
Пад пупам цяцерка.

* * *

Не вядзі мяне па пожаньцы,
Вядзі мяне па дарожаньцы.
А развёўшы мае ножанькі,
Пакладзі мяне ля пожанькі.

* * *

Рада баба, рада баба,
Што дзед утапіўся.
Ці не чорт яму даў, —
За куст учапіўся.

* * *

Гармонь нова — крышка стара,
Ў гарманіста шышка ўстала,
Гармонь нова крышка сцёрта,
Гарманіст пахож на чорта.

* * *

Выхадзіла пані Яні
Танцавала вальцы,
Цалавала пані Яні
Пану Януўя..цы.

* * *

Зяць на цешчы капусту вазіў,
Маладушку ўпрэжку вадзіў.
— Гэй, ну-ткі, ну-ткі, цешча
мая,
Тпру, стой, маладая жана.

* * *

Цыган бацька, цыган я,
Улавілі салаўя.
Бацька ў пуню, а я ў ток,
Бацьку ўбілі, а я ўцёк.

* * *

Качка плавала па моры,
Качаняты кракалі.
Цыган цыганку утапіў,
Цыганяты плакалі.

* * *

Янка Ганку не любіў,
Её боцікаў не купіў,
А купіў ей туфлі,
Каб ногі папухлі.
Гопца-дрыца, гоп-цаца,
Ножкі пухлі без канца.

* * *

Гірша з Моўшам добра жыў,
Гірша кроіў, Моўша шыў.
Гірша з Моўшам дровы сек,
Гірша Моўшу х.. адсек.

* * *

А як Дуні ногі гнулі,
Дуня не давалася,
А як Дуню прыгарнулі,
Дуня засмяялася.

* * *

Затужалася Мальвіна,
Што не кошана даліна.
І скасілі, і зграблі,
І Мальвіну палюблі.

* * *

Ашалела галава,
Ашалелі ногі.
А каб гэнай галаве
Прычапілі рогі!

* * *

— Ой, дзяўчына, чыя ты,
А ці пойдзеш гуляць ты?
— А што табе, чыя я,
Пойдуць людзі, пайду й я.

* * *

А на печы, на лучыне,
Дзеўкі грошы палічылі.
Налічылі шастака
І купілі мужыка.
А на печы, на лучыне
Мальцы грошы палічылі.
Налічылі кучку
І купілі сучку.

* * *

А багдай жа наш
Гаспадарочак упіўся,
А можа б ён

На ключыкі забыўся

* * *

Мы Амерыку дагонім,
Па надою малака,
А па мясу не дагонім —
Х.. зламаўся ў быка.

* * *

Тапор, рукавіца,
Жонка мужа не баіцца.
Тапор і піла,
Жонка мужа прапіла.

* * *

А дзед бабу шануваў,
На паперы навязаў —
А няхай жа баба ветраіць,
А можа яна палепшаіць.

* * *

Я не руская — беларуская.
Я вушацкага сяла,
Я бабачка весяла.

* * *

Пастух трубіў,
Штаны згубіў.
Пастушка йшла,
Штаны знайшла.
— Пастух, вярніся,

Штаны знайшліся!

* * *

А хто полечку танцуець,
Той багата не жывець,
Ён апошнюю кароўку
На падмёткі прадаець.

* * *

Рагочацца, якочацца,
За старога хочацца.
Стары хочаць і баіцца,
Каб у п..ду не ўтапіцца.

* * *

І хвор Кузьма,
І нядуж Кузьма.
Прывяжыце Кузьме
Галаву к п..дзе!

* * *

А я сваю бабку
Пасаджу ў кадку,
Палію яе вадой,
Яна будзіць маладой.

* * *

Я гэтаму мальцу
Паадсякаю пальцы,
Хай не лезіць пад падол,
Не бярэць за яйцы!

* * *

Бегаў зайчык каля рэчкі,
Пагубляў свае яечкі.
Шарыў, шарыў не знайшоў,
Як заплакаў і пайшоў.

* * *

А заінька ку-гу-гу
Качаіцца па лугу.
Качаіцца па лугу,
Радзіў хамут і дугу.
Качаіцца і п..дзіць —
Хочаць коніка радзіць.

* * *

Каб я ведала сваю горкую долю,
Я б павесіла гарбуз над п..дою.
Аб гарбаты гарбуз пад спадніцай
Пабаяліся б я.цы разбіцца.

* * *

Што будзіць не будзіць,
За дзеда найду.
У дзеда хлеб белы
І грошы знайду.
Што будзіць, не будзіць,
За дзеда пайшла,
У дзеда хлеб белы
І грошы машна!

* * *

Мая мілка памірала
На асінавым бярне,
Ручкі, ножкі сашчапіла,
Адказала п..ду мне.

* * *

Давяла ты мяне, мая Зосечка,
Ні каня, ні дугі, ні атосачкі.

* * *

Танцы, танцы, два за.ранцы,
Едэн пердзі, другі смердзі.

* * *

Эх, чух, начухаўся,
Падняў хвартух, нанюхаўся,
Падняў хвартух і спадніцу,
А там сядзіць з рукавіцу.

* * *

Танцавала з цымбалістам,
Затыкала п..ду лістам.

* * *

Наелася кашы з лоем,
Не дала свінням спакою:
Я хадзіла часта с..ць,
Не давала свінням спаць.

* * *

Ой там, на расіцы
Прасіў заяц ў лісіцы,
А лісіца не давала,
П..ду лапай закрывала.

* * *

Сербіянка, мая мая мамка,
Не хадзі на вуліцу.
Адарвалі мальцы сіські,
Адарвуць і курыцу.

* * *

Тапор, рукавіца,
Жонка мужа не баіцца.
Тапор і піла,
Жонка мужа прапіла.

* * *

А сват свацці падплёў лапці
З таўстых лык,
А сам ходзіць, ганабрыцца,
Як індык.

* * *

Абы ўмела польку танчыць,
А работу гора наўчыць.

* * *

Разгарэўся куль саломы,

Толькі пыхаідь агонь.
Закрутала дзеўка замуж,
Толькі топаіць нагой.

* * *

Добры вечар, паненачка,
Ці ты спіш?
Пакажы тую дзюрачку,
Што ты с..ш.
А за танцы, за прыпеўкі
Палюбілі мяне дзеўкі.
А за ўдачу за маю
Аба..алі галаву.

* * *

А за крупы,
А за сала
П..да лупы
Закасала.

* * *

Нікому так не ўдалося,
Як нашаму Юрку.
Сам на печы, х.. — на плечы,
Я.цы — у пячурку.

* * *

Чыя хата на гарэ,
Ці не свёкра майго?
А пярун яго забі
І сыночка яго!

* * *

Антон-калатон
На калодзе сядзеў,
Антон-калатон
Кату ў сраку глядзеў

* * *

А лісіца барсуку
Пасуліла на суку:
— Калі хочаш ты барсук,
Залязай ка мне на сук!

* * *

А лісіца і барсук
Любаліся цераз сук.
А маленькі барсучок
Цераз маленькі сучок.

* * *

Ці не спіш ты, дзяўчына,
Ці не дрэмлеш ты?
Ці не даць табе дудку,
Ці не п..дніш ты?

* * *

Сідар, Сідар макадёр
На парозе бабу цёр.
Як пацісніць — баба пісніць,
Як паверніць — баба п..дніць.

* * *

Ой, мамулечка мая,
Ці буду я жыва —
Перарвалася ў мяне
П..дзяная жыла.

* * *

Цяпер дай, цяпер дай,
Цяпер хочацца,
А пад старасць х., не ўстаніць,
П.. да зморшчыцца.

* * *

Сядзіць барыня пад плотам,
Вышываіць п..ду дротам.
Едзіць барын і хахочаць,
Ну а ў п..дзе дрот лапочаць.

* * *

Ой, дзяўчаткі, Бог і з вамі!
Здыму штаны, лягу з вамі.
Здыму штаны і сарочку,
Лягу з вамі на ўсю ночку!

* * *

Як бывала, я давала
Па чатыры разы ў дзень.
А цяпер мая давала
Атрымала бюлетэнь.

* * *

Гарбуз ела, рэдзьку жду,
Не руш мяне за п..ду!

* * *

А сінічка вераб'я
Устоічку за.бла.

* * *

Курыць, веіць мяцеліца.
Чаму стары не жэніцца?
Стары хочаць і баіцца,
Каб у п..ду не ўваліцца

* * *

Ой, чашы, чашы, чашы
За астатнія грашы!

* * *

Мамулечка, п'яна, п'яна,
Свярбіць мая абіз'яна.
Ой, пайду я к Тумашу,
Абіз'яну пачашу.
А Тумаш падла
Часаў яе ладна
Грабянём сваім цвярдым,
ішоў клубамі дым.

* * *

Сем год кахаліся,

Не купіў мне хусткі,
Як пусціла паміж ног,
Наробіў мне пусткі.

* * *

Ашалела Паланея,
Што за юду пайшла.
А ў юды чорны муды,
Па калена машна.

* * *

— Мамулечка, ў клець вядуць.
— Не плач, дачушка х., дадуць.
— Мамулечка, мне страшна.
— Не плач, дачушка, затое
смашна!

* * *

Ой, Сямёнаўна ды баба хітрая,
Любіла Сталіна, а цяпер Гітлера.

* * *

Ой, каліна, смелы цвет,
Каля пупа сельсавет,
Пад пупом райвыканком,
Туды ходзяць за пайком.

* * *

Гоп, мае грачанікі,
Усе жыды начальнікі,

А ў калгасі дуракі
Дзяруць межы, як быкі.

* * *

А ў калгасі добра жыць,
Адзін робіць, сем ляжыць,
А як сонца прыпячэць,
І апошні ўцячэць.

* * *

Ленін Троцкаму сказаў:
— Пойдзем, Троцкі, на базар,
Кабылу купім карую,
Накормім пралетарыю.

* * *

Дзякуй Сталіну грузіну,
Што абуў нас у рызіну!
Будзем Амерыку прасіць,
Каб рызіну не насіць!

* * *

Іграў мядзведзь у дуду,
А воўк у жалейку.
А маленькі чарнасракі
Скакаў па маленьку.

* * *

На вуліцы я была,
Убачыла Грышку.
Хацеў мяне паваліць,

Пашчупала шышку.

* * *

Прыйшлі дзеўкі на базар,
Сталі чапурыцца.
Прыйшоў Грышка,
На.раў блізка —
Неяк прыступіцца.

* * *

Нікому так не ўдалося,
Як нашаму Юрку,
Сем грывень заплаціў —
Не папаў у дзюрку.

* * *

Як на пасту ганяла,
П. .ду дома кідала,
На паліцы пад гаршком
Націскала камяшком.

* * *

Баба сеяла муку,
Сыпала ў кадушку,
Загадала мужыку
Палюбаць цялушку.

* * *

Баба сеяла, трусіла,
За п..ду блаха ўкусіла.
Баба думала, што клоп,

Па п..дзе далонню — хлоп!

* * *

Цераз рэчку йшла,
На кладачку села:
— Пі, п..дзічка, пі вадзічку,
Ты кілбаску ела.

* * *

Сядзіць баба над ракой,
Работы не маіць,
Траву рвець, п..ду трэць,
А ўсё ж не гуляіць.

* * *

Выйшла барыня плясаць,
Салодкія пальцы,
Ў адну руку ўзяла х..,
А ў другую я.цы.

* * *

Дзёр, дзёр мазурку,
Разагнаўся
Ды ў дзюрку!

* * *

А што гэта за манеры,
Што малыя кавалеры?
Лепі чорны дзёгаць піць,
Чым такую дрэнь любіць.

* * *

А ў чыстым полі пад ябурамі
Часалі дзеўкі х., тапарамі.
Яны часалі ды прымяралі,
Ой каб жа, ціці, не ўкараці!

* * *

Я сягоння рана ўстала,
Да суседа я паджгала:
— Ці ты відзіў, ці ты бачыў,
Хто мне перад рассабачыў?
— А я відзіў, а я бачыў,
А я перад рассабачыў!

* * *

А бандалы, бандалы
Падымаюць падалы,
А маленькі бандалок
Падымаіць падалок.

* * *

Мая мілка захварэла,
Захацела малака,
Не папала пад карову,
А папала пад быка.

* * *

Ой, ты, Сцёпачка, Сцяпан,
Памаленечку ступаў
То ў запеччак, то ў куток,
Лавіў дзевак за пупок.

* * *

Ці ты хвор, ці нядуж
Ці якое ліха?
Я кручуся, шавялюся
А ты ляжыш ціха.

* * *

Ракам настаялася,
С.акай наківалася.
Камары наеліся,
Людзі наглядзеліся.

* * *

Я сваю Марынку хоць пасярод
рынку.
А ў маёй Мальвінкі на дзве
палавінкі.

* * *

Усе дамоў, усе дамоў,
Толькі мне не хочацца.
А мне трэба паглядзець,
Каго мой мілы павядзець?

* * *

Гарманіста маленечкі
Пабіў сабе каленечкі.
Дзеўкі Богу маліліся,
Каб каленкі гаіліся.

* * *

Гарманіст у нас адзін,
Мы па разіку дадзім.
Гарманісту трэба даць,
Весялей будзіць іграць!

* * *

І ты скачаш, і я скачу,
І ты хочаш, і я хачу.
А хто вышэй падскочыць,
А той болі захочаць.

* * *

Ой, не сам я трасуся,
Мяне чэрці трасуць,
А малыя чарцяняткі
Падкалочваюць.

* * *

А шалёны, апантаны
Памачыў канец ў смятану.

* * *

У балоце пад кустом
Цяцера нясецца.
Жыд жыдоўку любець
Аж ярмолка трасецца.

* * *

Ой, чарачка-сакатуха,

Не йдзі міма, а йдзі ў бруха.
З кілішка цячэць,
Каля сэрца пячэць.

* * *

Араў Раман пры дарозе,
Павесіў х., на бярозе.
Там дзяўчаты краскі бралі
І ў Рамана х., укралі.

* * *

Як я была малада,
Тады была рэзва,
Цераз хату па канату
Сама на х., лезла.

* * *

Ведаем мы камуністаў,
Ведаем бальшавікоў:
Яны ходзюць у скуранках,
Дзяруць скуру з мужыкоў.

* * *

Скаку-скаку на пальчыках,
Села скулка на яйчыках,
Скаку-скаку на пяце,
Села скулка на п..дзе.

* * *

Не завабіш пірагом,
Не завабіш булкай,

А я цябе завяду
Кучаравай куркай.

* * *

А паўзець павук па сцяне,
Авохці мне, я баюся,
Каб ён не папоўз па пузе.
Дайце мне якую рыззінку,
Закрыю я сваю разіньку.

* * *

Пайшла маці ў Даўгінава,
Дачку дома пакінула.
Пакуль маці вярнулася,
Дачка дома сапсулася.

* * *

Па суседству жыў Мікіта.
У Мікіты хата крыта
І чаротам, і кулямі,
Пасярэдзіне — х..мі.

* * *

Яшчэ сонца не ўсхадзіла,
Курва курвачку радзіла,
А як стала залачаць,
Стала курвачка крычаць,
А як стала усхадзіць,
Стала курвачка хадзіць.

* * *

Ішла баба з рынку,
Нясла чапялінку,
А за ёй заяц
Пачаў бабу лаіць:
— А ты, баба, сцерва
Каму дала перва,
Ці Анісічку сісічку,
Ці Антонічку шмонічку?

* * *

У калхоз дарога прама,
А з калхозу касяком.
У калхоз ішоў абуты,
А з калхозу — басяком.

* * *

Ай, не ўстою, не ўлежу —
Падымаіць адзежу.
Ай, не ўлежу, не ўстою
За сваёю ліхою.

* * *

Салдат, любі мяне,
Куды хочаш, вядзі мяне,
А ді ў боб, ді ў мякіну,
Сама цябе перакіну.

* * *

Злавілі сароку
Ды пасярод току,
Лёй-ліля-лё.

А надралі лою
Над самай п..дою,
Лёй-ліля-лё.

* * *

Шышы-мышы шалелі,
Бабе дзюрку праелі.
Стала баба плакаці:
— Чым мне дзюрку лапіці?

* * *

А там, пад алешкаю,
Стаіць баба з качарэжкаю.
Сталі бабу камары
Цяці,
Стала баба дагары
С.аці.

* * *

Кумпяччо ў маёй красулі
Сорак восем дзесяцін.
Без штаноў, адно ў кашулі
Да цямна араў адзін.

* * *

Хадзі, хадзі, ходка,
Спераздзі бародка,
Спаміж ног хахалок,
Ззадзі скавародка.

* * *

Без музыкі, без дуды
Ходзюць ногі не туды.
А як дуду пачуюць
Самі ногі танцуюць.

* * *

Рыбакі лавілі рыбу,
А спаймалі рака.
Цэлы дзень яны глядзелі,
Дзеў рака с.ака?

* * *

А на пячы, на краю
Любуць мілую маю.
А я з х..м бегаю
І ніх.я не здзелаю!

* * *

Навару я бульбачкі
Ды падсмажу сальца,
Накармлю я мужыка,
Каб стаялі я.цы!

* * *

Як пайду я на гару
Ды на быструю.
А я табе на.яру,
С..ку выстаўлю.

* * *

Як была я малада,
Тады была рэзва:
Пайшла жаць, села .раць —
У п..ду жаба ўлезла.

* * *

А барышня пышна
На вуліцу выйшла,
Полы падкасала,
П..ду паказала.

* * *

А барыня грададым —
З п..ды полынь,
З .ракі дым.

* * *

Я дурэю і расту,
Поўна срачка хварасту.
Я ў Полацку была,
Жыду рыжаму дала.

* * *

Маладая маладуха
Саладзіла саладуху,
І макала руку,
То ў с..ку, то ў муку.

* * *

Ой, прыгожанька глядзець,
Як п..дзюленька ідзець!

* * *

Каціліся цялежачкі,
Каціліся — сталі.
Лібіля-кахаліся, —
Цяпер ператалі.

* * *

Нікому так не ўдалося,
А як нашай сіраце —
З'ела курку да з ножкамі
Трапечацца ў жываце.

* * *

А вырасла лебяда
Вышэй гарадзішча.
Павыходзюць дзеўкі замуж,
Не будзіць ігрышча.

* * *

Кацілася чарка
З столу далоў.
Едзьце вы, госці,
З Богам дамоў!

*Цярэжка цярэжыла*
*На печы не ўлежала..*

## ЦЯРЭЖКА

* * *

Цярэжка цярэжыла,
На печы не ўлежала.
— Цярэжка, чаху-чаху,
Што ў цябе ў мяху, ў мяху?
— Шпілечкі ды йголачкі,
Залаты пярсцёначкі.
Йголачкі ды нітачкі,
Хведаравы лытачкі.

* * *

Цярэжку бяда стала,
З кім яго жана спала.
У садку зялёненькім,
З казачком малодзенькім.

* * *

Пабег дзед па ельнічку,
Баба па бярэзнічку.
Дзед бабу лавіў, лавіў,
Ляшчыннік ламіў, ламіў.
Ляшчыннік не ломіцца,
Бабулька не ловіцца.

* * *

А здайся, бабулька, зздайся,
На іншых не заглядайся,
Іншыя не лепшыя,

Ёсь за мяне й меншыя.

* * *

— Дзядулька, саколік мой,
Падымі падолік мой.
— Бабулька, царыца мая,
Каротка спадніца твая.

* * *

Не ўцякай, дзядулька-шарсцень,
Не турбуй бабіных касцей.
Пасядзі на печцы ў кутку,
Пакуль я красёнцы вытку.
Тоненька-танюсенька,
З пальчыкам раўнюсенька.
Выткаўшы красёначкі,
Пашыю штанёначкі.

* * *

Пастаі, бабулька, ў кутку,
А я разганюся ды ўткну.
Не ўцякай, бабулька, з раду,
Уторкну дудачку ззаду.
Не ўцякай, бабулька дворна,
У цябе пад пупам чорна.
Не ходзі на рэчачку,
Замочыш авечачку,
Не ходзі на быструю,
Замочыш сукрыстую.

* * *

Ажнуль мне галоўка баліць,
Як жа мне дзядульку злавіць?

Не бяжы, дзядулька, бяжком,
Запала сцежачка сняжком.
Вазьму я мяцёлачку,
Размяту дарожачку,
Запалю я свечачку,
Асвячу я сцежачку.

* * *

Хоць жа я пабегаю,
Як рыбка па берагу.
Хоць жа я пагуляю,
Як рыбка на Дунаю.
Хоць жа я галоўку зламлю,
Я сабе дзядульку злаўлю.

* * *

Ай, бяда мне стала, бяда,
Далі мне старога дзяда.
Старога, старлівага,
А дужа сварлівага.
Ані з ім у пір пайсці,
Ані з ім дома быці.
Пайсці ў пір — сварыціся,
Дома быці — біціся.

* * *

Бела рутанька на вакне,
Не далі дзядульку па мне.
Я росту вышэйшага,
Гонару лішэйшага,
Ён ростага меншага,
Гонару цішэйшага.
Зялёна рутанька стаіць,
На мяне мой дзедзька глядзіць.
Зялёна рутанька на вакне.

А дайце дзядульку па мне.

* * *

Пайду я каля лугу
Дзеўкам на пераругу.
Пайду я каля саду
Хлопцам на перасяду,
Каліну ламаючы.
Дзядульку шукаючы.

* * *

Паіла коніка ў вядрэ,
Ўбачыла рыбачку на дне.
Смачная рыбачка карась,
Пацалуй, дзядулька, хоць раз.
Смачная рыбачка язёк,
Пацалуй, дзядулька, разок.

* * *

Пайду я кароў даіць,
А за мной Давыд бяжыць.
Кіну я даёначку
Давыду ў галёначку.
Каб цябе кадук стаптаў,
Як ты мне хвартух падраў.
Гэта мне татусь купіў,
Каб мяне Пятрусь любіў.

* * *

Буду я дзевак прасіць, —
Паможце мне дзеда злавіць.
Мой дзедзька далёка відаць,
У яго боцікі скрыпяць.

Шубачка бабровоая,
Шапачка-баранкоўка.
Кудры завіваюцца,
Дзеўкі заглядаюцца.

* * *

Дзед бабе чугай шыіць,
А ў бабы душа ныіць.
Дзед бабе чугай пашыў,
На начы сем раз прасіў.

* * *

Дзед бабу тапіць вядзець,
А баба крычыць, не йдзець.
Дзед бабу чабох на дно.
— А мне, дзедзька, й тут ладно.

* * *

Казалі, мой дзед прапаў,
А яго ніхто не ўкраў.
Мой дзед па гарэ ходзіць,
Карагод дзевак водзіць.

* * *

Пайду я на ток, на ток,
Знайду я курэй куток,
Пеўніка ніводнага,
Галоўка заводная.
Вы, курачкі, не сакачыце,
Галовак не клапачыце.
Ёсь у мяне рэшата пер'я,
Куплю вам пеўніка пеўна.
Ёсь у мяне рэшата пшаніцы,

Буду я сыноў жаніці.

* * *

На гарэ дудар хлодзіць,
Карагод дзевак водзіць.
— Дзяўчаты-пралесачкі,
Не йдзіце ў арэшачкі,
А вы там заблудзіце,
Дамоўкі забудзеце.
Вас заяц напугаіць,
Вас пугач загукаіць.

* * *

Пайду я праз тын глядзець,
Як жа мой дзядулька арэць.
Конік вараненечкі,
Дзядулька маладзенечкі.

* * *

Не ўцякай, дзядулечка,
Я ж твая бабулечка.
Чаго ты туляешся,
За дзевак хаваешся,
Каго ты ўракаешся
Ці мяне цураешся?

* * *

Шэрая зязюлечка
Па саду паляцела.
Далі мне дзядулечку,
Каго я захацела.
Трэба мне піва варыць,
Трэба мне сыноў жаніць.

Трэба мне гарэлку гнаць,
Трэба мне дачок аддаць.

## ГУЛЛІВЫ НАСТРОЙ

* * *

А ў сераду на Масляніцу,
На жыдоўскія запусты
Пятух яйцо знёс,
На паліцу ў куточак узнёс.
А сляпы падглядаваў,
А глухі падслухаваў,
А бязрукі яечка ўкраў,
А бязногі уздагон паджгаў.
А бязрукі ды ў бязногага
Яечка адабраў,
Галапузаму за пазуху паклаў.

* * *

Цераз тры дні
На чацвёртай нядзелі
Майго мужа камары з'елі.
Ай, пайду з тугі-гора заб'юся
Аб белыя падушкі.
    Цераз тры дні
    На чацвёртай нядзелі
    Майго мужа камары з'елі.
    Ай, пайду з тугі-гора
    ўтаплюся
    У салодкім мядочку.
Цераз тры дні
На чацвёртай нядзелі
Майго мужа камары з'елі.
Ай, пайду з тугі-гора задаўлюся
На маладых малойчыках.

* * *

Пайшоў казёл у гарод,
Стаптаў часнык, зламаў плот.
Павязу казла на базар
І за тры рублі прадам.
За руб куплю чарніла,
А за другі бяліла,
А за трэцці румянаў,
Каб на мяне сусед глянуў.
Прадала я свой тавар,
А на двор мой гаспадар:
— Чаго, жонка, чырвона?
— Печ паліла сягоння.
— Чаго, жонка, чарнаброва?
— А я ў печ клала дровы,
Лучыначку паліла,
Бровы агнём хапіла.
— Чаго, жонка, так бела?
— А я муку сеяла.
— Ну, дзе ж, жонка, наш казёл,
Быў жа спрыцен і вясёл?
— Пайшоў казёл на гару,
Скруціў сабе галаву.

* * *

А ў нядзелю п'ю, п'ю,
Ў панядзелак п'ю,п'ю.
А ў аўторак снапоў сорак
Пшанічаньку жну, жну.
Ў сераду сушыла,
Ў чэцвер малаціла,
Ў пятніцу веяла,
А ў суботу сеяла.
А ў нядзелю прадала
І з хлопцамі прапіла.
Слава Табе, Госпадзі,
Што да дзела давяла!

* * *

Ай, жонка мужа ды зневажала,
Завяла ў поле дый прывязала
Плячмі к бярозе, х..м к дарозе.
А людзі едуць ды ўсё пытаюць,

Што чалавеча х..м баўтаіць?
А паставіла вадзіцы ражку,
А палажыла саломы вязку.
Не йдзець нядзелю, не йдзець
другую,
Трэццяй нядзелі пайшла
глядзеці.
Салома ляжыць, вадзіца стаіць.
Салома цалютка, ражка
паўнютка.

* * *

А ў цёмным лесе сава кувічыць.
Люлі-люлі, сава кувічыць.
А ў чыстым полі муж жонку
клычыць,
Люлі-люлі, муж жонку крычыць:
— Ты, жонка мая, людзям
спадмана.
Люлі-люлі, людзям спадмана.
— Калі ж не верыш, а мой
міленькі.
Люлі-люлі, а мой міленькі, —
Купі званочак пад падалочак.
Люлі-люлі, пад падалочак.
Як хто затроніць, званок
зазвоніць.
Люлі-люлі, званок зазвоніць.
А ты пачуеш, мяне ўратуеш.
Люлі-люлі, мяне ўратуеш.
Званочак звоніць ля самай хаты.
Люлі-люлі, ля самай хаты.

А муж не чуіць, ён глухуваты.
Люлі-люлі, ён глухуваты.

* * *

А дзед бабу разуваў,
Разуваў, разуваў.
Пад ножачку паглядаў,
Паглядаў, паглядаў,
— Ой, бабулька, што за звер,
Што за звер, што за звер,
Я ж баюся, каб не з'еў
Каб не з'еў, каб не з'еў.
— Ці ж ты ў лесе не бываў,
Не бываў, не бываў,
Чорных звяроў не відаў,
Не відаў, не відаў?
Ты, дзядулька, не рабей,
Не рабей, не рабей, —
Гэта птушка салавей,
Салавей,салавей.
Ён і свішчыць і пяець,
І пяець, і пяець,
І спакою не даець,
Не даець, не даець.
А дзед бабу разуваў,
Разуваў, разуваў...

**ЗМЕСТ**

